Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 13 (4608) 1 красавіка 2011 г.

## У нумары:



# Сумоўе творчых душ

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Кастуся Дробава

**Ініцыятыва правядзення такой незвычайнай творчай акцыі належыць Беларускаму саюзу музычных дзеячаў. Наладзілі яе ў Вялікай зале сталічнай філармоніі напярэдадні знамянальнай даты — Дня яднання народаў Беларусі і Расіі, што адзначаецца заўтра, 2 красавіка. Аднак не афіцыйны напамін календара стаўся нагодай для гэтай кранальнай і цёплай сустрэчы: арганізатараў імпрэзы і кіраўніцтва БДФ, беларускіх выканаўцаў і гасцей з Расіі, запрошаных да ўдзелу ў канцэртнай праграме, паяднала вялікае і светлае імя Ірыны Архіпавай. Легендарнай спявачкі, фенаменальнай асобы. І — пра што ведае далёка не кожны з яе прыхільнікаў — нашай зямлячкі.**

Ірыну Архіпаву, самую тытулаваную спявачку былога СССР і Расійскай Федэрацыі, называлі і называюць з’явай у сусветнай музычнай культуры ХХ стагоддзя. Яе яркае мецца-сапрана нават у запісе ўражвае высакародною тэмбру, шчодрай палітрай нюансаў, высокай культурай гуку, віртуознай вакальнай тэхнікай, асэнсаванасцю і праніклёнасцю кожнай інтанацыі. Узрушальны голас. І дар універсальнага драматычнага пераўвасаблення: артыстка выклікала захапленне ў рускіх операх, у заходнееўрапейскай класіцы, у сольных партыях вакальна-сімфанічнага і харавога рэпертуару, у камерных мініяцюрах. А яе неверагодны творчы шлях! На прафесійную оперную сцэну Ірына Канстанцінаўна прыйшла паспяховым 30-гадовым спецыялістам... у дойлідстве. Кажуць, у Маскве можна пабачыць будынкі, над праектамі якіх працавала маладая архітэктар Архіпава. Ды ў музыцы яна была чалавекам невыпадковым: да вайны вучылася ў “Гнесінцы”, потым брала ўрокі вакалу, спявала ў аматарскіх калектывах, паступіла ў Маскоўскую кансерваторыю. І ўрэшце архітэктура перастала быць яе прафесіяй.

Ірына Канстанцінаўна любіла прыязджаць у Беларусь. У 1960—70-х гадах у Мінску часта ладзіліся прэм’еры шэдэўраў сусветнай аратарыяльнай музыкі з удзелам выканаўцаў-гасцей. Прыязджала і Архіпава. Дырыжоры, артысты аркестра, калегі-салісты яе абагаўлялі. І мы, зусім юныя ўдзельнікі хору, мелі гонар выступаць з ёю, сачыць за натхнёным палётам магутнага, магічнага сола, пазіраючы на велічную і шыкоўную Артыстку. Праз колькі гадоў Ірына Канстанцінаўна працавала ў Мінску як старшыня журы найпрэстыжнага Усесаюзнага конкурсу вакалістаў імя М. Глінкі, дзе была не толькі строгім суддзёй, але і ўважлівым педагогам, шчодрым на прафесійныя парады маладым канкурсантам. Пры канцы 1980-х яна завітала ў Полацк, дзе тады нарадзіўся новы Міжнародны фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі. Замест адпачынку ў гасцініцы напярэдадні канцэрта ці гутаркі з журналістамі Архіпава выбрала сакральнае, сам-насам, спатканне з полацкай святыняй. У дарозе да Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, які ў тыя гады толькі-толькі пачынаў адраджацца, госцю суправаджала прадстаўніца фестывальнага аргкамітэта. Яе глыбока ўзрушыла тое, што сусветна знакамітая зорка наведалася ў старажытны храм не на экскурсію, а дзеля ціхай малітвы — як існа праваслаўны чалавек...



Бог не толькі падараваў ёй чарадзейны і непаўторны музычны інструмент — рэдкасны голас, але здзейсніў яшчэ адзін цуд: малады тэмбр голасу Ірыны Архіпавай захаваўся да яе 80 гадоў!

А хіба не цудам быў “саборны” талент Ірыны Канстанцінаўны, у душы якой злучылася беларускае і рускае? Яна ўмела знаходзіць, збіраць і аб’ядноўваць людзей: і здольную творчую моладзь, і майстроў, апантаных мастацтвам. Менавіта вялікая Архіпава ў няпростую часіну канца 1980-х узначаліла Міжнародны саюз музычных дзеячаў і да апошніх дзён сваіх захоўвала, умацоўвала, развівала творчыя стасункі. Дапамагаючы, дарэчы, у вырашэнні арганізацыйных праблем Беларускаму саюзу музычных дзеячаў.

Год таму, калі зямны шлях яе раптоўна абарваўся, “ЛіМ” надрукаваў журботныя нататкі пра асобу І. Архіпавай, пра яе творчыя і дзелавыя кантакты з музычнымі дзеячамі Беларусі, якую Ірына Канстанцінаўна без усялякай рыторыкі называла сваёю. Роднай. У кнізе “Музы мае”, якую напісала спявачка, ёсць радкі пра звязаную з Мінскам рамантычную гісторыю кахання сваіх бабулі ды дзеда. І пра Гомель, у які яна часта наведвалася да іх...

Задумаўшы канцэрт пад назваю “Памяці вялікай спявачкі Ірыны Архіпавай”, беларускія музыканты запрасілі гасцей з Расіі. Прыехаў муж Ірыны Канстанцінаўны — Уладзіслаў П’яўко, славуты спявак-тэнар, народны артыст СССР, прэзідэнт Міжнароднага саюза музычных дзеячаў і Фонду І. Архіпавай, акадэмік, прафесар. Ён сёлета сустрэў сваё 70-годдзе, але працягвае актыўную творчую дзейнасць, вядзе музычна-асветніцкую і грамадскую працу, скіраваную найперш на прафесійнае станаўленне маладых выканаўцаў. Яшчэ адна госця — Ксенія Вязнікава, уладальніца яркага мецца-сапрана, заслужаная артыстка Расійскай Федэрацыі, салістка маскоўскага тэатра “Гелікон-опера”. Напярэдадні выступлення ў філармоніі масквічы пабывалі ў БДУ культуры і мастацтваў, дзе іх віталі лепшыя студэнцкія спеўныя калектывы: хор “Дабравест” пад кіраўніцтвам Альбіны Пякуцкі ды эстрадны гурт “Universum”. Падчас гэтай творчай сустрэчы У. П’яўко распавёў пра самыя памятныя эпізоды свайго творчага жыцця: службу ў войску, першы візіт у оперу, знаёмства з Ірынай Архіпавай, дэбют на сцэне Вялікага тэатра...

Канцэрт у філармоніі (рэжысёр праграмы Валерый Уколаў, вядучая Іна Зубрыч), хоць і доўжыўся каля дзвюх з паловай гадзін без антракту, успрымаўся як адно вялікае імгненне шчырага яднання многіх і многіх, знаёмых і не знаёмых між сабою, людзей. Яднанне праз музыку. Праз творчы дух. Праз светлую ўдзячную памяць... У суправаджэнні Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам Міхася Казінца спявалі лепшыя салісты нашай opernai сцэны: Наталля Акініна, Васіль Кавальчук, Ніна Шарубіна, Андрэй Марозаў, Алена Шведава. А потым інструментальныя голас Беларусі далікатна падтрымаў выступленне расійскіх гасцей, кульмінацыяй якога стаўся выкананы дуэтам раманс М. Глінкі “Не искушай”: калісьці ён захапляльна гучаў у канцэртах І. Архіпавай і У. П’яўко. Ды гэтым разам голас вялікай спявачкі мы пачулі толькі ў запісе...

“Сумна, што на гэтай сцэне, дзе мы часта спявалі разам з Ірынай, я цяпер адзін...” — расчулена прамовіў наш госць. І раптам з партэра хтосьці выгукнуў: “Мы з вамі!” І гэтае “Мы з вамі!” пачулася ўжо з розных куткоў залы. І патанула ў авацыях...

***На здымку: народны артыст СССР Уладзіслаў П’яўко і заслужаная артыстка Расійскай Федэрацыі Ксенія Вязнікава.***

## Пункціры

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" з 30-годдзем яе заснавання. "Талоўнае багацце Тэатрастудыі кінаакцёра — унікальны калектыў, сапраўдная садружнасць аднадумцаў, якія знаходзяцца ў пастаянным творчым пошуку", — гаворыцца ў віншаванні.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народных артыстаў Расійскай Федэрацыі Аляксея Булдакова і Станіслава Гаварухіна з юбілеямі. У віншавальных лістах адзначаецца шматграннасць таленту артыстаў і тое, што іх мастацтва служыць умацаванню культурных сувязей паміж Расіяй і Беларуссю.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сувязі са смерцю народнай артысткі СССР Людмілы Гурчанкі выказаў спачуванні родным і блізкім артысткі.

Міністэрства культуры Беларусі аб'яўляе аб правядзенні адкрытага маладзёжнага конкурсу на стварэнне літаратурнага сцэнарыя мультыплікацыйнага фільма, прысвечанага нацыянальнай тэматыцы. Матэрыялы для ўдзелу ў конкурсе аўтары павінны накіраваць да 1 кастрычніка 2011 года на адрас Дэпартамента па кінематаграфіі Міністэрства культуры Беларусі.

Падведзены вынікі Міжнароднага паэтычнага конкурсу "Залатое пяро", які праходзіў у Маскве. У намінацыі "Лепшыя вершы, прысвечаныя тэме славянскага адзінства", пераможцай стала віцебская паэтэса Тамара Краснова-Гусачэнка.

Духоўна-асветніцкая праграма "Сям'я-Адзінства-Айчына" пройдзе ў маі 2011 года ў Нясвіжы. Праграма ўключае ў сябе хрэсны ход, канцэрты, семінары, круглыя сталы, акцыі ў падтрымку мнагадзетных сем'яў, спектаклі для дзяцей і тэатральныя форумы для падлеткаў, выстаўкі-кірмашы духоўнай літаратуры, аўдыё- і відэапрадукцыі.

Узвядзенне гісторыка-архітэктурнага комплексу "Мінскае замчышча" плануецца пачаць у канцы 2011 года. Комплекс размесціцца на плошчы 4,9 га і будзе абмежаваны ракой Свіслач, праспектам Пераможцаў, вуліцай Багдановіча, станцыяй метро "Няміга" і фантанам перад Палацам спорта. Археалагічна даказана, што старажытны Мінск пачаў сваё існаванне менавіта на гэтым месцы.

Працягваецца адкрыты публічны конкурс "Уваходны білет у Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь". Конкурсныя работы прымаюцца да 17 красавіка. Ацэньваць праекты будзе кампетэнтнае журы на чале з генеральным дырэктарам Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімірам Пракапцовым. Білет абранага дызайну будзе дзейнічаць на працягу аднаго года.

Серыя веснавых прэм'ер падрыхтавана для юных слухачоў Віцебскай абласной філармоніяй. Гэта — музычная казка рускага кампазітара Барыса Чайкоўскага "Ласкуцік і воблака", створаная паводле аповесці Соф'і Пракоф'евай; музычная праграма "Герой дзіцячых кніг" (абедзве пастаноўкі віцебскага рэжысёра Антона Грышкевіча) і, урэшце, інструментальная казка "Залаты ключык", створаная маладым салістам філармоніі Уладзіславам Сярпінскім.

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Анатоль Крэйдзіч: «Ініцыятыўных у нас многа...»

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Члены Брэсцкага абласнога аддзялення "Саюза пісьменнікаў Беларусі" лічаць сябе паслядоўнікамі Уладзіміра Калесніка. Далучэнне да вялікага імя абавязвае быць на ўзроўні — ствараць вартыя кнігі, прымаць удзел у важных для краіны падзеях, быць сапраўднымі праваднікамі духоўнасці. Здаецца, літаратарам Брэсцкай вобласці гэта ўдаецца. Ва ўсялякім разе, галасы іх — чутныя, творчасць — заўважная. Сёння наш суразмоўца — старшыня берасцейскай пісьменніцкай арганізацыі Анатоль Крэйдзіч.**

**— Анатоль Мікалаевіч, шмат у якіх краінах не толькі рэгіянальных пісьменніцкіх арганізацый, але наогул ніякіх не існуе. А пісьменнікі ўсё роўна кнігі ствараюць. Што, па вашаму, рэальна дае берасцейскім літаратарам членства ў СПБ?**

— Памятаю, калі мне прапанавалі ўступіць у Саюз пісьменнікаў Беларусі ў 1997 годзе, я таксама не ведаў, дзеля чаго гэта робіцца і навошта мне быць у тым Саюзе. А калі выклікалі на Прэзідыум, — бачу, там спрэс класікі, на творах якіх, можна сказаць, вырас. І гэтыя класікі ўсе галасуюць за маё ўступленне. Якая была радасць! Колькі сіл, эмоцый, натхнення ад адчування, што вось ты цяпер — разам з імі, у адной суполцы! Стаўшы членам Саюза пісьменнікаў, натуральна, зблізіўся з літаратарамі берасцейскага аддзялення, адкрыў для сябе іх творчасць, шмат з кім пасябраваў. Гэта вялікая ўдача для пісьменніка — жывучы ў невялікім горадзе, мець магчымасць пастаянна кантактаваць з сабратамі па пяры, абменьвацца творчымі планамі і задумамі.

**— Ці шмат у Брэсцкім абласным аддзяленні СПБ ініцыятыўных людзей?**

— Ведаеце, калі б не гэтыя ініцыятыўныя людзі — існыя сябры, патрыёты Берасцейшчыны, — ніякая справа не рухалася б. Ну ўявіце сабе: я, старшыня, жыву ў невялічкім горадзе Іванава, рэдагую раённую газету. А гэта ж 135 кіламетраў ад Брэста. Вельмі ўдзячны сваёй намесніцы Любові Красеўскай. Яна і гаспадыня нашага офіса, і справавод, і арганізатар мерапрыемстваў, і выдатная паэтэса — гонар аддзялення, і наогул памочнік ва ўсім. Валерый Гапееў — не толькі пладавіты і безумоўна выдатны празаік, але і не горшы праграміст. Вось ужо пяць гадоў яго намаганнямі існуе сайт аддзялення. Вялікі дзякуй Аляксандру Юдзіцкаму, гэтаму неабыякаваму, чуламу чалавеку за яго пастаянны клопат пра нашу легенду, самага старэйшага літаратара краіны, Ганаровага грамадзяніна Брэста Васіля Ласковіча, якому ў лютым споўнілася 97 год. Аляксандр Майсеевіч апекаваўся падрыхтоўкай рукапісу яго кнігі "Водгулле далёкай навальніцы..." Ініцыятыўнасць Мікалая Еляняўскага з Пінска грунтуецца на высокай духоўнасці і глыбокім патрыятызме. Гэта па яго прапанове заснавана ў в. Лунін Лунінецкага раёна літаратурнае свята "Лунінская восень". А як жа запатрабаваны аддзяленнем мудрасць, жыццёвы вопыт, шчырасць, надзейнае плячо Георгія Тамашэвіча! Колькі карыснага зрабіў для літаратараў і літаратуры краю Валерый Грышкавец! Усё, што мы выдаём у Маскве ў тоўстых літаратурных часопісах, "Литературной газете", — гэта найперш яго клопаты. Досыць актыўна ўдзельнічаюць у справах аддзялення Аляксандр Валковіч, Зінаіда Дудзюк, Анатоль Бензярук, Вячаслаў Бурдыка, Марыя Ляшук. Так што ініцыятыўных у нас многа.

**— Безумоўна, самым дзейсным спосабам прапаганды творчасці пісьменніка таго ці іншага рэгіёна з'яўляецца ўдзел пісьменніцкай арганізацыі ў міжнародных форумах, сустрэчах, фестывалях. Як складваюцца стасункі берасцейцаў з пісьменнікамі суседніх краін?**

— Летась і пазалетась дэлегацыі берасцейскіх пісьменнікаў прымалі ўдзел у разнастайных мерапрыемствах на Беласточчыне, якія ладзілі літаратурнае аб'яднанне "Белавежа" на чале з прафесарам Беластоцкага ўніверсітэта Янам Чыквіным і культурны цэнтр Беларусі ў Польшчы. Міжнародны форум з удзелам беларускіх пісьменнікаў Польшчы, Гарадзеншчыны і Берасцейшчыны ладзіўся летась таксама ў Гродне. Сёлета месцам яго правядзення стане Берасцейшчына. А назва яго — "Літаратурны трохкутнік". Наладжаны трывалыя сувязі і з Люблінскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Польшчы. Мы перакладаем творы з беларускай на польскую і наадварот. Удзельнічаем у мерапрыемствах. Абменьваемся мы таксама творамі і дэлегацыямі з Валынскай пісьменніцкай арганізацыяй, якую ўзначальвае вельмі зычлівая Ніна Горык. Брэст з'яўляецца месцам правядзення "Фестывалю рускай паэзіі". Гэта свята рэспубліканскага ўзроўню.

# Навіны літжыцця: Берасцейшчына

*Брэсцкае выдавецтва "Альтэрнатыва" выпусціла першы літаратурны альманах Івацэвіччыны "Там, дзе Грыўда і Шчара". А ў выдавецтве "Харвест" пабачыла свет новая кніга Зінаіды Дудзюк "Адварог". Яна выйшла ў серыі "Беларуская сучасная фантастыка", якую заснаваў СПБ.*

Падводзяцца вынікі *абласнога конкурсу маладых аўтараў "Мы рождены для вдохновенья"... Тыя, хто будуць прызнаны лепшымі ў намінацыях "Малая проза" і "Паэзія", стануць удзельнікамі Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу, які пройдзе ў Брэсце і станецца састаўной часткай Міжнароднага фестываля рускай паэзіі.*

***Пісьменнікі абвясцілі** абласны літаратурны конкурс для моладзі, якая піша на беларускай мове, "Суніцамі пахне Айчына...". Конкурс прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Міхася Рудкоўскага. Вынікі будуць падведзены да Дня беларускага пісьменства.*

***5 красавіка** спаўняецца 70 гадоў празаіку Аляксандру Юдзіцкаму.*

## Конкурсы

# Свята сяброўства

Ірына АЛЯКСАНДРАВА,
фота Кастуся Дробава

**У Доме культуры Мінскага трактарнага завода адбылося цікавае мерапрыемства — конкурс дуэтаў. У ім прынялі ўдзел самадзейныя артысты з пяці краін.**

Калі чатыры гады таму дырэкцыя Дома культуры ў першы раз абвяшчала конкурс дуэтаў, ніхто і падумаць не мог, што канцэртспаборніцтва, зарыентаванае ў асноўным на завадчан, перарасце ў своеасаблівы міжнародны фестываль. Але гэтак здарылася.

Зрэшты, і з самага пачатку мерапрыемства мела адпаведны размах. Першыя гады дуэты фарміраваліся па прынцыпе: самадзейны спявак плюс тытулаваны прафесійны эстраднік. Безумоўна, такое творчае супрацоўніцтва магло быць толькі разавай акцыяй. Але яна надта спрыяла цікавасці грамадскасці да конкурсу і, галоўнае, заахвочвала самых заводскіх артыстаў да ўдзелу ў культурна-відовішчных мерапрыемствах.

Конкурснай тэматыкай 2011 года стала дружба народаў былога Савецкага Саюза. Адпаведна, назву конкурс атрымаў — "Песні, якія нас аб'ядноўваюць". Спаборніцтвы праходзілі ў два этапы. Першы — гэтак званая абавязковая праграма — выкананне песні, складзенай у СССР. Песні В. Дабрыніна, Р. Паўлса, В. Раінчыка, І. Нікалаева, Н. Багаслоўскага, Ю. Антонава ператваралі паказ у яркі дывертысмент. Падчас перапынку на сцэну выйшлі госці конкурсу, спевакі



вядомай групы "СССР". У другім туры гучалі народныя песні і новыя хіты.

Узровень выканання ў большасці ўдзельнікаў мог быць прыраўняны да прафесійнага. Таму журы даволі доўга вырашала, каму ж аддаць перамогу. У выніку Спецыяльны прыз атрымаў дуэт МТЗ — Вольга Ручан і Руслан Мельнікаў. Трэцюх месцаў было тры. І дасталіся яны трыа "Ластаўкі" з Даўгаўпілса, каларытнаму дуэту "Отрада" з Санкт-Пецярбурга і трыа з Казахстана — Аліхан Бахіянаў, Даніяр Бакыт, Алія Гуцова. Два другія месцы прысудзілі дзяўчатам з Тальяці Ларысе Сцяпанавай і Ларысе Ціхонскай, а таксама запарожскаму дуэту Юліі Кандрашовай і Дзмітрыю Іванову. Лепшым быў прызнаны мужчынскі дуэт з Мінска — Дзмітрый Саўчанка і Мікіта Касцюкевіч. Яны пазіцыянiруюць сябе ні болей, ні меней, як Тэатрам песні. Назва абавязвае, але хлопцы, безумоўна, вартыя яе.

***На здымку:** самы яркі імідж прадэманстравалі ўдзельнікі Піцерскага дуэта "Отрада" Барыс Зонаў і Валянцін Івашчанка.*

## Імпрэзы

# Адкрытае сэрца

Барыс ЛУШЧЫК

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры прайшла вечарына "Сэрца майстра ўсім адкрыта", прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага паэта, перакладчыка, а таксама сапраўднага майстра ў іншых літаратурных жанрах, Аляксея Зарыцкага.**

Да падзеі была падрыхтавана выстава, на якой экспанаваліся кнігі як самога Аляксея Аляксандравіча, так і іншых пісьменнікаў, тых, хто ў свой час пакінуў яму даравальныя надпісы. Можна было пазнаёміцца і са здымкамі розных гадоў, рукапісамі.

Вялі вечарыну загадчык навукова-экспазіцыйнага аддзела музея Вольга Гулева і дачка А. Зарыцкага Таццяна Аляксееўна. Сваімі згадкамі пра А. Зарыцкага, уражаннямі ад яго творчасці падзяліліся Мікола Аўрамчык, Алесь Марціновіч, Вячаслаў Рагойша, Васіль Жуковіч, Ала Сямёнава, Васіль Зуёнак, Алесь Разанаў і іншыя. Творы Аляксея Аляксандравіча гучалі ў выкананні Алега Вінярскага. Вадзім Спрынчан прачытаў верш "Наконт віна" ў сваім перавыбасабленні па-руску. Дачка Сяргея Грахоўскага Таццяна Сяргееўна пазнаёміла прысутных з успамінамі свайго бацькі пра А. Зарыцкага.

## Літабсягі

# «Прафесійнае» свята паэтаў

**Няма такой прафесіі — паэт. А "прафесійнае" свята — Сусветны дзень паэзіі — існуе. Яно было зацверджана на 30-й сесіі ЮНЕСКА ў 1999 годзе. І вось ужо дванаццаць гадоў з гэтай нагоды ў розных краінах свету, у розных гарадах збіраюцца паэты, каб павіншаваць адзін аднаго і прадставіць новыя свае творы чытачам.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

І што б там ні казалі пра незапатрабаванасць паэзіі ў сучасным меркантыльным свеце, але ў залах і на пляцоўках, дзе ў гэты дзень ладзяцца святочныя імпрэзы, свабодных месцаў звычайна не бывае. Ва ўсялякім разе, гэтак у нас, у Беларусі. Ды, мабыць, беларусы і наогул адзін з самых паэтычных народаў, бо вершы ў нас пішуць і міністры, і калгаснікі, і паважаныя пенсіянеры, і школьнікі. Узровень жа прафесійных нашых паэтаў настолькі высокі, што гэтаму не перастаюць здзіўляцца замежныя крытыкі і літаратары.

Ва ўсёй сваёй разнастайнасці была прадстаўлена ў гэтым годзе сучасная беларуская паэзія на вечарыне, прысвечанай Сусветнаму дню паэзіі, у сталічным Доме літаратара. Больш як 20 паэтаў — членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі прынялі ў ёй удзел. Бездакорная рытміка вершаў Генадзя Пашкова, пранікнёны лірызм Міхася Пазнякова і Валянціны Палікaнінай. Грамадзянскасць Навума Гальпяровіча і глыбіня мастацкай вобразнасці Анатоля Аўруціна скаралі; нягучная, лёгкая, як трапятанне крылаў матылька, паэзія Таісы Трафімавай і па-ясенінску шырокае слова Юрыя Сапажкова дапаўнялі супрацьлеглымі па колеры фарбамі тканы агульнымі намаганнямі святочны паэтычны дыван. А яшчэ былі тут вытанчаны далікатны верш Лізаветы Палеес і напоўнены пульсацыяй жыцця радок Казіміра Камейшы; гатовы выбухнуць ледзь стрыманай экспрэсіяй верш Рагнеда Малахоўскага і філасофскі расповед Міколы Шабовіча. З радасцю прынялі ўдзел у вечарыне паэты-франтавікі Аляксандр Суслаў і Мікалай Іваноў. Паэт Атаалахі Зартошт, перс па паходжанні, чытаў творы на роднай мове і ў перакладзе на рускую — мудрагелістая вязь усходняга верша скарала магічнасцю гучання. Вадзім Спрынчан прадстаўляў свае вершы на рускай, беларускай і ўкраінскай мовах.

Сапраўдный знаходкай арганізатараў вечарыны стала чытанне ўзораў класічнай паэзіі на англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай, італьянскай, кітайскай і арабскай мовах. Сусветную паэтычную культуру ярка прадставілі студэнты факультэта міжкультурных камунікацый Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, выхаванцы выкладчыкаў Алены Арцюхевіч, Таццяны Гарановіч, Яўгена Мароза. І безумоўна, вядучым паэтычнай вечарыны быў таксама паэт — адзін з цікавейшых рамантыкаў сучаснай беларускай літаратуры Міхась Башлакоў.




***На здымку: Валянціна Паліканіна чытае свае вершы, апублікаваныя ў апошнім нумары часопіса "Нёман".***

## Артлінія

# Новыя перасоўнікі

Алена ЗЯЛЕВІЧ,
старшы навуковы супрацоўнік музея-сядзібы "Пружанскі палацык"

**Суполка "Таварыства перасоўных мастацкіх выстаў. XXI стагоддзе" з Санкт-Пецярбурга завітала ў Пружаны са сваёй вялікай экспазіцыяй. У музеі-сядзібе "Пружанскі палацык" адбылося ўрачыстае адкрыццё XXX выстаўкі гэтага таварыства. Прысутнічалі прадстаўнікі адміністрацыі раёна, мастацтвазнаўцы і мастакі, кіраўнікі ўстаноў адукацыі і проста гледачы. На вернісаж прыехалі з Санкт-Пецярбурга старшыня праўлення "Таварыства…" Валерый Выбаржанін і мастак Юры Белазерскі.**

Гэтае творчае аб'яднанне створана ў 2005 годзе ў Санкт-Пецярбургу з мэтай адрадзіць лепшыя традыцыі рускага мастацтва, вядомыя па творах Крамскога, Пярова, Шышкіна, Мясаедава, Рэпіна і іншых перасоўнікаў XIX стагоддзя. Вось што расказаў старшыня праўлення "Таварыства…" В. Выбаржанін: "У адрозненне ад сваіх папярэднікаў, перасоўнікі сучасныя нароўні з рэалістычным (у вузкім сэнсе) падыходам да мастацтва прапануюць і іншыя праверaныя часам мастацкія канцэпцыі. Зварот да жыцця, асветніцкая праца, як гэта было ў папярэднікаў, характэрна і для нашага аб'яднання, асаблівасцю якога з'яўляецца пошук і пошук і паказ твораў, што сцвярджаюць высокія гуманістычныя мэты рускага мастацтва. Вельмі важна выявіць найболей каштоўныя творы ў вялікім коле мастакоў і аб'яднаць іх у адзінае культурнае поле. У аб'яднанні аднолькава паважліва ставяцца да самага рознага гледача. Дзейнасць нашых перасоўнікаў уключае таксама майстар-класы для юных мастакоў, удзел у навуковых канферэнцыях, стварэнне новых метадаў даследавання алейнага жывапісу, працу з бібліятэкамі; папаўненне фондаў музеяў новымі работамі; дапамога адоранай моладзі і падтрымка старых мастакоў; шэфства над галерэяй Я. Майсеенкі ў Беларусі (г. Буда-Кашалёва); арганізацыя фэстаў да інш.".



Выстаўка працуе да 3 красавіка. Гэта не проста экспазіцыя, але і досвед вялікай доўгачаканай мастацкай ідэі. Яе падтрымліваюць тыя, хто яшчэ памятае старое мастацтва і стаміўся ад тоеслоўя ды прафанацыі мастацтва, ад наватарства дзеля наватарства. Злучыць творчы досвед і шуканні мастакоў ды скульптараў з патрабаваннямі часу — вось задача ўдзельнікаў піцерскага аб'яднання, якое прадставіла ў Пружанах 86 разнастайных работ 43 мастакоў. У з'яўленні мастакоў-перасоўнікаў на пружанскай зямлі бачыцца невыпадковасць. З Пружаншчынай звязана імя Станіслава Жукоўскага, дзяцінства якога прайшло ў бацькоўскім маёнтку ў в. Сараволя і які пэўны час уваходзіў у Таварыства перасоўнікаў XIX ст. А вядомы жывапісец Іван Шышкін, таксама адзін з ідэйных перасоўнікаў, працаваў у Белавежскай пушчы. Мабыць пружанскі край нясе у сабе нейкі асаблівы код творчага і духоўнага патэнцыялу.

***На здымку: Вячаслаў Уланаў "Фінскі рыбак" (тэракота, 2000).***

## Повязі

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Алены Гурбо

# Дамы-караблі і кафэ-піраміды

**Менавіта так паэтычна называюць архітэктуру — "застыглая музыка". Дзякуючы творчаму парыву гарады, прадстаўленыя сучаснікам у папяровым макеце, застаюцца на стагоддзі нашчадкам. Як захаваць культурную "партытуру" мінулага і прадугледжваць будучыню гарадоў, якім "вопратка" макета вокамгненна робіцца малой? Гэтае і іншыя пытанні абмяркоўваліся падчас сустрэчы мінскіх архітэктараў і іх калег з Санкт-Пецярбурга.**

На сустрэчы прысутнічаў міністр архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь Анатоль Нічкасаў. Прадстаўнічая дэлегацыя з 20 чалавек прэзентавала ў Мінску ўзоры будаўніцтва паўночнай сталіцы Расіі, што складаюць асноўную частку экспазіцыі выстаўкі "Архітэктура Санкт-Пецярбурга-2009" у Мармуровай зале Графічнага музея.



Арганізацыя загараднага кампуса вышэйшай школы менеджменту Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта на базе палацава-паркавага ансамбля "Міхайлаўская дача"; новае будаўніцтва: студэнцкае кафэ ў форме піраміды; няправільны авал фізкультурна-аздараўленчага комплексу; НДІ менеджменту і цэнтр падрыхтоўкі кіраўнікоў у палацы вялікага князя Міхаіла Мікалаевіча, гасцінічны корпус цэнтра падрыхтоўкі кіраўнікоў у кухонным корпусе, — усе гэтыя работы можна было ўбачыць у пямяшканні Рэспубліканскага Дома архітэктараў. Візіт архітэктараў Санкт-Пецярбурга ў сталіцу Беларусі рыхтаваўся даўно — творцаў звязвае даўняе сяброўства. Дарэчы, ленінградскія архітэктары прымалі ўдзел у адраджэнні пасляваеннага Мінска. Госці пазнаёміліся з новымі і адрэстаўраванымі будынкамі нашай сталіцы, а таксама з магчымасцямі беларускіх прадпрыемстваў, якія працуюць на аснове айчыннай сыравіны. У межах візіту прайшлі майстар-класы для студэнтаў архітэктурных спецыяльнасцей БНТУ і БДУ. Адбылося падпісанне дагавора аб далейшым супрацоўніцтве: неўзабаве выстаўку работ беларускіх дойліддаў убачыць Санкт-Пецярбург.

***На здымку: адкрыццё выстаўкі ў Рэспубліканскім Доме архітэктараў.***

## З-пад пяра

На адкрыццё Тыдня дзіцячай кнігі, якое адбылося ў дзіцячым філіяле Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Карскага, завіталі не толькі гродзенскія пісьменнікі, але і госця з Мінска — паэтка Раіса Баравікова. Дасканалае веданне твораў Раісы Андрэеўны прадэманстравалі дзеці — галоўныя ўдзельнікі свята. Школьнікі ўпэўнена адказвалі на пытанні паводле твораў Баравіковай, разгадвалі загадкі і нават склалі красворд з прозвішчам госці. З цікаўнасцю слухалі юныя чытачы выступленне гродзенскай пісьменніцы Ганны Скаржынскай. Дырэктар бібліятэкі Л. Мальцава ўручыла пераможцам конкурсу "Лепшы водгук на любімую беларускую кнігу" граматы, падзячныя лісты і салодкія падарункі. Атрымалі падарункі ў той дзень і гродзенскія бібліятэкі. Ад РВУ "ЛіМ" — новыя беларускія кнігі.

Людміла КЕБІЧ

Грамадскае аб'яднанне "Дыялог Еўразія" ставіць сваёй мэтай распаўсюджванне ідэі дыялога і талерантнасці паміж народамі ўсяго свету. Круглы стол на тэму "Роля прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі ў духоўным жыцці грамадства" было падрыхтавана аб'яднаннем сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Прадставіўшы матэрыялы па гуманістычнай дзейнасці сучаснага турэцкага пісьменніка і філасафа Фетхулаха Гюлена, дырэктар аб'яднання Іхсан Дылекчы і старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец запрасілі прысутных выказаць свой пункт гледжання адносна магчымасці пісьменнікаў у сучасным свеце ўплываць на стэрэатыпы мышлення. У абмеркаванні выступілі беларускія пісьменнікі Анатоль Андрэеў, Алена Папова, Атаалахі Зартошт, Ірына Масляніцына, Мікола Багадзяж, кнігавыдавец Лілія Анцух і іншыя.

Аляксей ГАРБУНОЎ

Сусветны Дзень паэзіі ў сярэдняй школе № 12 г. Віцебска быў адзначаны ў незвычайным фармаце. Акунуцца ў чароўную атмасферу Яе Вялікасці Паэзіі дапамагла госця, вядомая паэтка Тамара Краснова-Гусачэнка, якая падаравала ў гэты дзень школе свае новыя кнігі. Паэзія можа стаць адказам на самыя глыбокія духоўныя пытанні, сказала Тамара Іванаўна, навучыць дабру, узаемаразуменню, любві. У гэты ж дзень адбылася прэзентацыя чарговага зборніка вершаў юных паэтаў школы "Вытокі".

Алёна КРАСАВІК

Тэматычная вечарына "Чарнобыль — боль кожнага!" прайшла ў Гомельскім дзяржаўным каледжы мастацтваў імя Н. Ф. Сакалоўскага. Сумная памяць пра падзеі, што адбыліся 25 гадоў таму, вылілся ў вершы і песні. Іх пранікнёна выканалі навучэнцы каледжа. Наведалі вечарыну і гомельскія паэты — Алег Ананьеў, Аляксандр Атрушкевіч, Ганна Атрошчанка, Лілія Возісава і Ніна Шклярава.

Галіна МІКАЛАЕВА

У Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі адкрылася выстаўка маладзечанскай мастачкі Ядвігі Сянько "Шлях да святыняў". У экспазіцыі — 51 работа — спісы з вядомых абразоў і карціны на біблейскія сюжэты. Пятнаццаць гадоў таму Ядвігу, выпускніцу Маскоўскага ўніверсітэта мастацтва, надта зацікавіла і прывабіла хрысціянская тэма. З добраславення Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта мастачка пачала працаваць у новым кірунку. З творчасцю таленавітай мастачкі знаёмы ў Расіі, Украіне, Польшчы, краінах Балтыі. Іконы яе работы ўпрыгожваюць храмы ў Беларусі і за яе межамі, знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях.

Іосіф ЗАЯЦ

# Міхась Міцкевіч:
# «Беларуская літаратура — адна з наймагутнейшых…»

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

**Ён любіць паўтараць слова "каласальны": каласальная праца, каласальныя намаганні, каласальныя багацці, — не задумваючыся, пэўна, як дзіўна гучаць гэтыя словаспалучэнні ў яго аповедзе, аповедзе сына Якуба Коласа. Але, прынамсі, для Міхася Канстанцінавіча Колас быў зусім не той асобай, якой бачым яго мы, а "звычайным чалавекам, звычайным бацькам, вельмі клапатлівым, уважлівым, добрым". І імя гэтаму бацьку было Канстанцін Міцкевіч. У гэтым годзе Міхасю Канстанцінавічу — навукоўцу, літаратару, спартсмену, захавальніку спадчыны Якуба Коласа, споўнілася 85 гадоў. Ён ахвотна згадзіўся падзяліцца з намі сваімі думкамі пра мінулае і сучаснасць, пра сябе і пра бацьку.**



— Толькі вось вы сказалі тут, што я — літаратар. Які я літаратар?

**— Ну вы ж пішаце публіцыстыку, успаміны, нават вершы…**

— Я па сваёй адукацыі інжынер-механік, тэхнолаг. 55 гадоў адпрацаваў у фізічным інстытуце. Каля 200 навуковых публікацый…

**— Безумоўна, і ступень доктара тэхнічных навук, і патэнты на вынаходніцтвы…**

— Так, былі ў мяне распрацоўкі, якія атрымалі шырокае распаўсюджанне ў савецкі час. Я маю тры медалі ВДНГ СССР — бронзавы, срэбраны і залаты.

**— Цікава, што ў сына пісьменніка — тэхнічны склад розуму.**

— Я лічу, бацька ў першую чаргу быў усё ж такі не пісьменнікам, а настаўнікам. Прычым, Настаўнікам з вялікай літары. Пабачце, ён жа яшчэ ў маладыя гады свае распрацаваў навучальны дапаможнік "Другое чытанне для дзяцей беларусаў". Пасля была каласальная праца па методыцы выкладання мовы, іншых дысцыплін. Дарэчы, рыхтуецца кніга, прысвечаная гэтай яго дзейнасці. І цікава, што ў тэкстах Коласа ёсць спасылкі на такія крыніцы — нямецкія, французскія, якіх нашы даследчыкі нават і не расшукалі (сам бацька быў прыхільнікам методыкі Ушынскага). І потым ён выкладаў у пінскай прыхадской вучэльні методыку навучання дзяцей. Тады і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай, нашай мамай, Марыяй Дзмітрыеўнай.

**— А якой асабіста вам бачыцца сучасная беларуская літаратура?**

— Я не філолаг, каб даваць аб'ектыўную ацэнку. Ды і тое скажам, мой самы чытэльны ўзрост прыпаў на гады вайны, калі, на жаль, было надта мала чаго пачытаць на беларускай мове. Гэта — каласальны прабел. Аднак па маіх мерках беларуская літаратура наогул адна з наймагутнейшых літаратур на прасторах Савецкага Саюза. Узяць нават "Новую зямлю". Такой паэмы няма ні ў рускага народа, ні ў украінскага. Ну трошкі набліжаецца яна да паэмы другога Міцкевіча, Адама, — да "Пана Тадэвуша". Але "Пан Тадэвуш" ахоплівае пласт шляхецкі. А "Новая зямля" прысвечана працоўнаму чалавеку, селяніну. Гэтая паэма — пра высокую духоўнасць селяніна, пра яго каласальную цягу да работы, да зямлі.

**— Гэтая паэма па шырыні ахопу падзей больш нагадвае раман у вершах.**

— Алесь Адамовіч параўноўваў яе з раманам у вершах, з пушкінскім "Яўгенам Анегіным", і даказваў, што вытокі беларускай прозы ідуць з "Новай зямлі". Але ўсё ж такі ў рамане павінна быць любоўная інтрыга.

**— Раманы бываюць розныя.**

— Я не магу сабе ўявіць раман без любоўнай лініі. Але давайце далей аналізаваць беларускую літаратуру. Хто лепей напісаў пра працэсы калектывізацыі, чым Іван Мележ? Ніхто. І ўжо ніхто не напіша, бо час адышоў, пакаленне сышло, перастала балець. А каго з байкапісцаў мы можам параўнаць з Кандратам Крапівой? Хіба толькі "бацюхну Крылова". А хто так глыбока адлюстраваў псіхалогію чалавека ў "падвешаным" стане, як Васіль Быкаў? Можна сказаць, што Дастаеўскі, але ў яго вялікія творы і не толькі пра гэта.

**— Ды і Дастаеўскі, як аказалася, мае беларускія карані.**

— А паглядзіце, якая ў нас паэзія! Якая любоўная лірыка! Якія глыбокія філасофскія разважанні, непаўторная вобразнасць! Танк, Куляшоў, Зуёнак, Башлакоў… А яшчэ ёсць такі цікавы і малавывучаны жанр, як эпіграма. Вось вельмі добра, што Казімір Камейша сабраў кнігу "Беларуская эпіграма". Але ў мяне прэтэнзіі ўсё ж такі ёсць. Узялі ў кнігу гэтую тое, што было на паверхні, не пакапаліся глыбей. А ў кожнага ж паэта ёсць цудоўныя эпіграмы, а ёсць яшчэ і эпіграмы ў прозе. Канечне, каласальная праца — узняць нават толькі падшыўкі "Вожыка" і пазбіраць эпіграмы там. Але вынік будзе варты намаганняў. У нас магутная эпіграма. А яшчэ ў нас добрая пародыя. Вось беларускі анекдот — слабы. Аднак і яго трэба збіраць і захоўваць. Мне бачыцца ўсё гэта як цэлы шэраг кніг пад рубрыкай "Беларускі гумар".

**— У сваім спантанным аглядзе вы нічога не сказалі пра гістарычную прозу, жанр, які сёння набывае надзвычайную папулярнасць.**

— Мы надта спазніліся з гістарычным раманам. Яго ў беларускай літаратуры доўга не было, і з-за гэтага наш народ шмат згубіў. Бо менавіта гістарычны раман прымушае любіць сваю радзіму, ведаць яе, паважаць свой народ.

**— Пэўна, самае хваравітае пытанне сучаснасці — няведанне беларусамі сваёй мовы. Як вы думаеце, ці не позна ўжо рабіць нейкія намаганні, каб выправіць такое становішча?**

— Я думаю, што не позна. Чэхі вунь былі ўжо ледзь не згубілі наогул сваю мову, аднак пераадолелі. І мы можам. Трэба прапагандаваць мову выданнем цікавых кніг. Напрыклад, пра выдатных беларусаў — нешта накшталт "ЖЗЛ". Такіх у нас многа — у сферы навукі і тэхнікі, літаратуры. Такі матэрыял проста створаны дзеля выхавання моладзі.

**— А што яшчэ варта змяніць у цяперашнім становішчы Беларусі?**

— Трэба ўзняць статус настаўніка. А то найбольш здольныя выпускнікі ВНУ ідуць выкладаць ва ўніверсітэты, тэхнічныя вузы, а самыя слабыя — у школы. А менавіта ў школах павінны быць самыя здольныя. Потым, у нас калісьці была неблагая сістэма падрыхтоўкі вышэйшых кадраў, але цяпер яна пачала апускацца — гэтага нельга дапускаць. Калі чалавек ідзе да кандыдацкай, доктарскай, то патрабаванні павінны быць высокія. Калісьці мне давялося працаваць у экспертным савеце, і праз мае рукі прайшло столькі навуковых работ… І тады трапляліся зусім "ніякія" кандыдацкія. І мы, памятаю, нават пакуль спрабаваў абараняцца такі "саіскальнік", пісалі ў камісіі і перадавалі адзін аднаму эпіграмы накшталт: "Читая реферат, холодным обливаясь потом, в надежде что-то новое найти, приходишь к мысли: сколько идиотов стремится степень обрести". А цяпер такіх "ніякіх" прац ідзе, здаецца, значна больш. І абараняюцца, на жаль. І яшчэ скажу: не трэба падганяць людзей, якія працуюць у навуцы, з вынікамі. Каб вынайсці нешта новае, трэба патраціць 5 — 7 гадоў. Наогул, у развіцці навукі — наша будучыня.

## Анкета пісьменніка



*1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вяшчальнікам ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляецца нават на БТ. І яшчэ радзей — у газетах. Чаму?*

*2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі вучыць жыць?*

*3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?*

*4. Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы б вызначылі?*

**Юрась НЕРАТОК:**

**1.** Правакацыйнае пытанне: так і хочацца ўсхліпнуць, што раней цукар быў саладзейшы. А калі сур'ёзна, то пісьменнік і сёння — настаўнік і вяшчальнік ісціны. Гэта пра ангажаваную аўдыторыю ў невялікіх залах. Паколькі пісьменнікі здольныя выкладаць думкі прыгожай і правільнай мовай і шмат думаюць над абстрактнымі (не ўжыткова-побытавымі) праблемамі, то яны неардынарныя для абывацеляў і самаідэнтычныя для калег. Не разумею роспачы ад таго, што мала чытаюць — сум па бацькавай папрузе! Закрыйце Інтэрнэт, пакіньце адзін канал на тэлебачанні — і вернуцца настальгічныя часіны. Праўда, чытаць усё роўна будуць тое, што цікава, а не ўсё, што прапануюць.

Наконт БТ і газет. Усё ж у агульным выпадку пісьменнікі часцей з'яўляюцца ў газетах і часопісах, затым – на радыё, пасля — на тэлебачанні. Так заўсёды было.

**2.** Падзенне нораваў — віртуальная рэальнасць, бо пэўныя людзі жывуць пад прэсам гэтага міфа. Калісьці старэйшаму калегу, які скардзіўся на сучасную моладзь, прывёў аналагічную цытату з "Вітража" Янкі Брыля. Па часавых мерках атрымлівалася, што менавіта на пакаленне сёлетняга маралізатара наракаў класік. З узростам здольнасць успрымання канцэнтрацыі жыцця зніжаецца. Жыццяўстойлівасць і жыццёвая энергія — розныя рэчы. Калі замест росту асноўным габарытам становіцца даўжыня, хочацца гуляць у такія хованкі, каб усе пахаваліся і ніхто нікога не шукаў.

Другая частка пытання. Навучыць можа толькі цікавая кніга, але не прамымі натацыямі. Не стварэннем узорных франкенштэйнаў (ці шмат шчырых будаўнікоў камунізму даў сацыялістычны рэалізм?). Не вывадам на авансцэну ціхамірных пакорных Дзятлікаў і Чарнушак (пры ўсёй павазе да Івана Мележа, не ўяўляю маладых людзей, якія б імкнуліся быць да іх падобнымі. Аднак там і задача стаяла больш маштабная — хроніка часу, месца, людзей). Чым жа? Пэўна, толькі пазітыўным (не захоплена-замілавана-ханжаскім!) стаўленнем да існага жыцця, аб'ёмным яго бачаннем. І ўспрыманнем жыцця як тэрыторыі, на якой у чалавека няма права быць пустым або брыдкім аб'ектам.

**3.** Любая актыўнасць (грамадская, рабочая, фізічная, дзелавая…) на літаратурную працу ўплывае станоўча. Чым менш напішацца — тым лепш. Залатаносная рака мае цану толькі для здабытчыкаў, астатнія цікавяцца залатым пяском. Праўда, ёсць небяспека сціснуцца да неўразумення асноўнай чытацкай аўдыторыяй. Што павінна напісацца — напішацца, не пішацца — не псуй паперу, тым больш — літаратуру!

**4.** Тупіковае пытанне ў сённяшнім кантэксце… Прасцей даць рысы запатрабаванага нарыса. Па-першае, злабадзённасць тэмы. Калі праблемы няма або яна нікога не хвалюе — то няма чаго пісаць, тым больш — чытаць. Па-другое, празрыстая логіка выкладання. Байку пра слана і трох сляпых добра слухаць, аднак некамфортна адчуваць сябе адным са сляпцоў. Па-трэцяе, пэўная доля эпатажу і экспрэсіі. Традыцыйнае імкненне праславіцца на ўвесь свет і заваяваць павагу іншых літаратур сціпласцю, цнатлівасцю і сарамлівасцю — крывадушная абсесія (ідэфікс). Размова не пра табуяваныя прыёмы, псеўдарэвалюцыйнасць або блышыныя выбрыкі — пра магчымасць з'яўлення новых тэм і арыгінальнага асвятлення вядомых.

## Захаваем Навагрудскі замак разам!

Ірына ТУЛУПАВА

**Магчыма, такі слоган хутка можна будзе пабачыць і прачытаць у розных кутках нашай Беларусі. На мінулым тыдні зацікаўленыя ў адраджэнні і захаванні спадчыны прадстаўнікі дзяржаўных і грамадскіх арганізацый збіраліся на Гродзеншчыне. Міністр культуры Павел Латушка наведаў Навагрудскі раён, дзе сустракаўся з кіраўніцтвам вобласці і раёна. Гаварылі пра захаванне і аднаўленне Любчанскага і Навагрудскага замкаў, іншых гістарычных помнікаў.**

— Паміж замкамі ёсць яшчэ выдатная мясцінка — Шчорсы, дзе знаходзіцца царква святога Дзмітрыя Салунскага, дзе была бібліятэка Храптовічаў, дзе шмат цікавых гістарычных пабудоў, — зазначыў старшыня грамадскай назіральнай камісіі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Анатоль Бутэвіч. — Але больш дэталёва, сапраўды, разглядаліся пытанні далейшага ходу работ, у прыватнасці, па Навагрудскім замку. Акцыя па зборы сродкаў пры міністэрстве культуры ідзе з мінулага года. Прычым, ініцыятыва зыходзіла ад Міністэрства культуры Беларусі, яна падтрыманая Гродзенскім аблвыканкамам і Навагрудскім райвыканкамам.

Навагрудскі і Любчанскі замкі ў гэтым сэнсе нечым падобныя: клопат пра іх бяруць на сябе і прадстаўнікі грамадскасці: тыя, хто набывае білеты латарэі "Спадчына" ў выпадку з Навагрудскім замкам альбо, як у другім выпадку, прадстаўнікі фонду "Любчанскі замак". Акцыя працягваецца, да яе папулярызацыі далучаюцца рэдакцыі газет, тэлебачанне, з дапамогай ЦК БРСМ плануецца летам правесці суботнік, далучыць да працы будаўнічыя атрады. У "Беларусбанку" адкрыты рахунак, на які можна пералічыць свае ахвяраванні, "ЛіМ" размяшчаў яго на сваіх старонках.

У Міністэрстве культуры Беларусі абмяркоўваўся і ход далейшых спраў, у тым ліку — магчымасці распрацоўкі бліжэйшым часам праекта па захаванні і аднаўленні замка. У гэтым годзе, магчыма, дойдзе справа да праектнай дакументацыі. А далей пойдуць практычныя работы. Галоўнае — павінна быць "раскрыта" тэрыторыя. Тады паўстане перыметр сцен, і будуць бачныя абрысы самога замка. Іх чакае далейшая кансервацыя. Мяркуецца нават у адной з вежаў зрабіць экспазіцыю са знойдзеных рэчаў. Што да Любчанскага замка, то там размова ідзе менавіта пра рэстаўрацыю.

# Па размеркаванні. З Магілёва

Ірына ТУЛУПАВА

**У Магілёўскім дзяржаўным бібліятэчным каледжы даволі значная колькасць навучальных гадзін прысвечана вывучэнню літаратуры. Сусветнай, дзіцячай, літаратуры народаў былога СССР. Адпаведна пачынаючы ад старажытнагрэчаскага эпасу, "Іліяды" і "Адысеі" Гамера, і заканчваючы сучаснымі беларускімі, расійскімі пісьменнікамі — вывучаецца ўсё!**

Сярод выпускнікоў каледжа – нямала творцаў. Гэта пісьменнікі Алесь Махнач, Уладзімір Марук, прафесар, дэкан факультэта інфармацыйна-дакументных камунікацый Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Уладзімір Яцэвіч. У бібліятэцы каледжа, як і належыць кожнай узорнай чытальні, праходзяць літаратурныя вечары, гасцёўні.

Але размова з дырэктарам Магілёўскага бібліятэчнага каледжа Аляксандрам Чугаем — больш пра падрыхтоўку спецыялістаў. Менавіта і толькі тут рыхтуюць бібліятэкараў сярэдняй кваліфікацыі ва ўсе скарбніцы Беларусі.

**— Аляксандр Аляксандравіч, напэўна, лёгка быць манапалістам у сваёй справе?**

— Так, на дзённай форме навучання мы адзіныя ў краіне, хто рыхтуе спецыялістаў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. З аднаго боку, гэта гонар: любая бібліятэка — абласная, нацыянальная, сельская — працэнтаў на 80 укамплетавана нашымі кадрамі.

З другога — адказнасць. Бліжэйшыя да нас навучальныя ўстановы — Санкт-Пецярбургскі тэхнікум і Маскоўскі ўніверсітэт. Дзе, між іншым, нашы выкладчыкі яшчэ ў 1990-я гады павышалі кваліфікацыю.

**— Можа, у суседзяў і студэнтам навучацца лепш? Як падзяляеце інфармацыйную, бібліятэчную прастору ў межах СНД?**

— Сапраўды, жыхары ўсходніх раёнаў Магілёўшчыны, бывае, едуць вучыцца ў Смаленск, у ВНУ там можна пастунаць на бюджэтныя месцы. І жыллё здымаць там танней, чым у Мінску. Менавіта таму ў мінулым годзе былі зроблены захады, каб адкрыць на базе нашага каледжа філіял Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Але на сённяшні дзень пры разуменні і падтрымцы ўпраўлення культуры аблвыканкама і ўніверсітэта, на жаль, працэс гэты спыніўся на ўзроўні міжмiністэрскага ўзгаднення. Таму не магу сказаць, што філіял будзе. Але патрэба ў ім ёсць.

Сяброўства наша з універсітэтам распачалося ў 1994-м. Да мінулага года працавала група паглыбленай сярэдняй спецыяльнай адукацыі. І выпускнікі гэтай групы, каб прадоўжыць адукацыю, ішлі адразу на 3-і курс універсітэта. Але ўніверсітэт перайшоў на чатырохгадовае навучанне па спецыяльнасці, і мы дамовіліся, што ўсе нашы выпускнікі цяпер маюць магчымасць там навучацца з 2-га курса дзённага аддзялення па скразных вучэбных планах.



**— Ва ўніверсітэце факультэт, дзе рыхтуюць бібліятэкараў, называецца па-сучаснаму: інфармацыйна-дакументных камунікацый. У сувязі з узрастаннем цікавасці да інавацыйных падыходаў вы ў бібліятэчным каледжы не збіраецеся мяняць назву і кірунокі працы?**

— Мы летась таксама адкрылі новую спецыяльнасць — "дакументазнаўства і дакументацыйнае забеспячэнне кіравання". Шмат часу адводзім вывучэнню камп'ютарных дысцыплін. Сапраўды, мы прызвычаіліся бачыць бібліятэку як месца, дзе захоўваюцца кнігі, але на сённяшні дзень усё больш важную ролю адыгрывае электронная кніга. І неабходна ўмець працаваць з ёю. Каб зарыентаваць чалавека, на якіх сайтах лепш шукаць запаветны "томік", каб расказаць яму пра навінкі. Фарміраванне інфармацыйна-дзелавога цэнтра на базе бібліятэкі каледжа якраз і разлічана на тое, каб нашы выпускнікі ўмелі гэта рабіць.

**— Навучальны працэс на тое і навучальны, каб прыўзнімаць чалавека над яго ведамі. Але хто да вас паступае: тыя, хто не знайшоў месца ў іншых ВНУ, каледжах і тэхнікумах ці тыя, хто мэтанакіравана паступаў, каб пасля працаваць у бібліятэцы?**

— Ведаеце, сённяшні дырэктар Магілёўскай абласной бібліятэкі Ілона Сарокіна таксама не паступіла калісьці на філалагічны факультэт, прыйшла да нас у каледж, улюбілася ў прафесію і цяпер узначальвае абласную бібліятэку! Таму падыходы тут неадназначныя. Ёсць людзі, якія бібліятэкарамі толькі сябе і бачаць. З цікавасцю вучацца і потым ідуць працаваць. Гэта лічу самым галоўным: даць магчымасць нашым навучэнцам палюбіць спецыяльнасць і замацавацца ў прафесіі.

**— Вы працуеце без перанасычэння рынку кадрамі?**

— Якраз нядаўна ў нас адбылося папярэдняе размеркаванне. Дык вось на нашых 76 выпускнікоў ужо пададзена 92 заяўкі. І прыходзяць яшчэ. Мы не забяспечваем нават тыя заяўкі, якія даюць вобласці. Асабліва праблемныя —Віцебская і Брэсцкая. Між іншым, летась мы размеркавалі 12 платнікаў па іх просьбе, і яны ўсе замацаваліся на месцах. У нас жа рыхтуецца не толькі бібліятэкар, а той чалавек, які будзе забяспечваць, асабліва на вёсцы, ідэалагічную працу. Хто сёння рухае на сяле ідэалогію, акрамя старшыні сельскага савета? Бібліятэкар, урач ФАПа, калі ёсць, і нехта з кіраўніцтва СВК.

**— Аднак галоўнае ў прафесіі — праца з кнігай. Што чытаюць будучыя бібліятэкары?**

— Чытаюць, і на самых розных носьбітах. На занятках выкарыстоўваем у тым ліку электронныя падручнікі і электронныя канспекты лекцый. Фонд жа нашай бібліятэкі складае больш як 67 тысяч экзэмпляраў. Папаўнялася бібліятэка да 2009 года па праграме развіцця сярэдняй і спецыяльнай адукацыі вельмі добра: каля 700, нават да 1000 кніг набывалі ў год. Але гэта была абласная праграма, на жаль, далей яна не працавала, і мы апошнімі гадамі набылі толькі каля 50 экзэмпляраў кніг. Але працуем з абменнымі фондамі бібліятэк. Цесна ўзаемадзейнічаем з Нацыянальнай бібліятэкай, з Прэзідэнцкай бібліятэкай, з абласной. І такім чынам папоўнілі свае фонды ў 2010 годзе яшчэ на 1000 экзэмпляраў. Гэта і прафесійная, і мастацкая літаратура.

*На здымку: дырэктар Магілёўскага дзяржаўнага бібліятэчнага каледжа Аляксандр Чугай.*

# Тэатр, які пачынаўся з жабяняці

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

**Дзеці надзвычай любяць "ажыўляць" любыя істоты, адорваючы іх адвечным правам чалавека гаварыць, рухацца, праяўляць эмоцыі. Яны бачаць у іх тое, што схавана ад дарослага вока. Асабліва ж радуюцца, калі ўдаецца "ўдыхнуць душу" ў любімую ляльку.**

Дзіцячы лялечны тэатр "Пацешка", створаны ў дзіцячай бібліятэцы № 6 г. Мінска, — адзіны такі ў сталіцы. Дзеткі бягуць сюды з жаданнем хутчэй надзець на сваю руку ўлюбёнага героя казкі і прымусіць яго рухацца так, як падказвае іх багатая фантазія. Цяпер ніводнае мерапрыемства для маленькіх хлопчыкаў і дзяўчынак не абыходзіцца без удзелу тэатра, з дапамогай якога героі кніг ажываюць, рухаюцца, размаўляюць. "На наш погляд, гэта адзін з самых эфектыўных спосабаў прываблівць дзетак да беларускай кнігі", — гаворыць дырэктар бібліятэкі Тамара Патук.

А пачыналася ўсё… з некалькіх лялек і акцёраў. Але гульня так захапіла, што "жыхароў" такога казачнага горада станавілася ўсё больш: цяпер свайго "выхаду на сцэну" чакаюць каля 30 персанажаў — лялек, якія зроблены рукамі супрацоўнікаў ці куплены. Сярод іх — Антонік-Понік — галоўны герой адной з кніг У. Ліпскага; Вася Вясёлкін і Васілінка — галоўныя дзеючыя асобы часопіса "Вясёлка"; дзед Усявед, пугач Купа — персанажы зборніка "Лясная кніга", дзядуля Адам, бабуля і ўнучка Юля — персанажы



казак М. Маляўкі; ліса-калядоўшчыца, воўк-прадпрымальнік з аднайменных казак М. Чарняўскага і шмат іншых.

Але галоўнае — што дзеткі, якім даручаюцца лялькі для таго, каб адбылася казка, самі "дапісваюць" яе — эмацыянальна ўзбагачаюць і люструюць непаўторны ў сваіх фарбах прыгожы і захапляльны дзіцячы свет.

*На здымку: жабяня — першая лялька ў дзіцячым тэатры.*

# Штрых-код

Рыта СТАХ

## Што было

**22 сакавіка** адбылася прэзентацыя электроннага фотаальбома Аляксея Пысіна *"Жыццё маё…"*. Электронны фотаальбом падрыхтаваны супрацоўнікамі Магілёўскай абласной бібліятэкі, якая з'яўляецца арганізатарам штогадовых Пысінскіх чытанняў. Фотаздымкі з сямейнага архіва, на якіх паэт разам з роднымі і блізкімі, з сябрамі і калегамі, былі прадастаўлены жонкай Еўдакіяй Пысінай, дачкой Любоўю Лукашковай і ўнукам Дзянісам.

Удзел у мерапрыемстве прыняў Віктар Арцем'еў, які добра ведаў паэта і цяпер з'яўляецца даследчыкам творчасці А. Пысіна. Віктар Іванавіч прэзентаваў сваю новую кнігу-радавод "Пысіны: ад прадзеда да праўнукаў".

**Напрыканцы** сакавіка ў Гомельскай абласной бібліятэцы адбылася акцыя і выстаўка прэзентаваных кніг "Любімай бібліятэцы" з запрашэннем дарыцеляў.

**У цэнтральнай** раённай бібліятэцы г. Ліда праходзіла выстаўка старадаўніх богаслужбовых выданняў, прымеркаваная да Дня праваслаўнай кнігі. Самы даўні фаліянт, які выклікаў цікавасць наведвальнікаў, быў выдадзены яшчэ пры Пятру І.

Падчас пасяджэння клуба "Каласок" у дзіцячай бібліятэцы імя Якуба Коласа Пінска маленькія чытачы здзейснілі падарожжа ў незвычайную краіну пад назвай "Добрыя манеры". Праз вершы і ўрыўкі з казак бібліятэкары знаёмілі дзяцей з правіламі паводзін дома і ў гасцях, у школе і на вуліцы.

## Што ёсць

**З 21 сакавіка па 10 красавіка** ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрыта выстава "Прыгажосць італьянскага мастацтва ў выданнях бібліятэкі Франко Марыя Рычча".

З 28 сакавіка па 3 красавіка ў бібліятэках Пінскага раёна праводзіцца Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі.

## Што будзе

**12 красавіка** ў Віцебскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Маўра плануецца прэзентацыя кнігі Д. Газіна "Сапуновские сокровища" (да 160-годдзя з дня нараджэння А. Сапунова).

**14 красавіка** ў Гомельскай абласной бібліятэцы адбудзецца "круглы стол" на тэму "Кніга Беларусі: дзяржаўныя і прыватныя калекцыі. Сучасны погляд" з удзелам бібліятэкараў Беларусі. Ужо паступілі заяўкі на ўдзел ад Гродзенскай абласной бібліятэкі, плануюцца выступленні з Веткаўскага музея народнай творчасці, Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. "Круглы стол" адбудзецца ў рамках Румянцаўскіх чытанняў. У палацы Румянцавых і Паскевічаў будзе экспанавацца выстава кніг з калекцыі М. П. Румянцава, якія прадставіць Расійская дзяржаўная бібліятэка — уладальніца кніжнай калекцыі Мікалая Пятровіча.

**З 18 па 23 красавіка** ў Браслаўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы адбудзецца тыдзень выпускніка.

**У красавіку** ў Віцебскай абласной бібліятэцы пройдзе пазнавальна-інфармацыйная гадзіна "Космас далёкі і блізкі" (да 50-годдзя касмічнай эры).

**21 красавіка** ў Баранавіцкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя В. П. Таўлая пройдзе Дзень інфармацыі "Жыццё пасля Чарнобыля". У гэты дзень адбудзецца конкурс літаратурных твораў "Чарнобыль у нашым лёсе", у якім удзельнічаюць старшакласнікі школ горада. На працягу месяца ў публічных бібліятэках г. Баранавічы пройдзе цыкл мерапрыемстваў, прысвечаных 25-годдзю Чарнобыльскай трагедыі.

**30 красавіка** адбудзецца бенефіс Лышчанскай сельскай бібліятэкі (Пінскі раён) "Бібліятэка — усім нам мілы дом", прысвечаны 60-годдзю чытальні. Віншуем юбіляра!

*Заўвага: у датах запланаваных мерапрыемстваў магчымы змены.*

Ксенія КУШНАРОВА

# Яго «Каласавіны»

**Даследаванне творчасці Якуба Коласа мае даволі значныя набыткі. Але, разам з тым, да гэтага часу застаецца яшчэ шмат недастаткова вывучаных важных пытанняў і праблем, аналіз якіх у ракурсе новых дасягненняў літаратуразнаўства дапаможа больш поўна і ўсебакова ацаніць мастацкую спадчыну класіка беларускай літаратуры.**

Ужо не адно дзесяцігоддзе ў нашай краіне падтрымліваецца традыцыя правядзення “Каласавін” — рэспубліканскага свята, прымеркаванага да дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа. У рамках святкавання праводзіцца навукова-практычная канферэнцыя, дзе праблемныя пытанні актуалізуюцца ў выступленнях даследчыкаў мастацкай спадчыны песняра.

Пастаянным удзельнікам гэтага свята пачынаючы з першых “чытанняў” з’яўляецца член-карэспандэнт НАН Беларусі Міхась Мушынскі — мэтр айчыннага літаратуразнаўства, які адным з кірункаў сваёй навуковай дзейнасці абраў некалі даследаванне творчасці Якуба Коласа.

Кніга Міхася Мушынскага “Мае “Каласавіны”, якая пабачыла свет у 2010 годзе ў выдавецтве “Беларуская навука”, уяўляе сабой зборнік артыкулаў, куды (па вызначэнні аўтара) “уключаны даклады і выступленні на пленарных і секцыйных пасяджэннях, а таксама некаторыя іншыя артыкулы, звязаныя з літаратурнай спадчынай пісьменніка, але іх тэма ў той або іншай ступені ўпершыню была агучана менавіта на “Каласавінах”.

Матэрыялы, уключаныя ў ладны томік (больш як 30 друк. арк.), скіраваны на пераасэнсаванне састарэлых, часам вельмі моцна спрошчаных ацэнак, неаб’ектыўных высноў, на больш глыбокае навуковае даследаванне твораў Якуба Коласа. Увага засяроджваецца на паасобных вузлавых пытаннях ідэйна-творчага, светапогляднага, грамадска-палітычнага характару песняра, на некаторых праблемных аспектах, такіх, як успрыманне Коласам сацыялістычнай рэвалюцыі, стасункі з уладай, афіцыйнымі коламі.

У асобныя блокі вылучаны артыкулы, дзе разглядаюцца этапныя творы народнага паэта, такія, як паэма “Новая зямля”. Гэты




твор інтэрпрэтуецца аўтарам як праява высокай духоўнасці беларускага народа, невычэрпная паводле свайго зместу, глыбіні пранікнення ў псіхалогію, жыццё, унутраны свет, нацыянальны характар беларуса, як класічны ўзор нацыянальнага ліра-эпасу, перш за ўсё з пункта гледжання яго мастацкай дасканаласці.

Адна са структурных частак зборніка прысвечана даўно наспелай у беларускім коласазнаўстве праблеме ўзроўню перакладу на рускую мову паэм “Новая зямля” і “Сымон-музыка”. Параўнальна-супастаўляльнае вывучэнне арыгінальных і перакладных тэкстаў абедзвюх паэм, якое зрабіў у адным з раздзелаў кнігі Міхась Мушынскі, паказала, што наяўныя пераклады не адпавядаюць запатрабаванням сённяшняга чытача, бо рускамоўныя варыянты гэтых твораў значна адрозніваюцца ад арыгіналаў: перакладчыкамі дапушчана шмат істотных скарачэнняў, якія парушылі не толькі аўтарскую творчую волю, але, часам, і агульны сэнс паасобных частак.

Ідэйна-мастацкая канцэпцыя паэм у выніку такіх адвольных дзеянняў апынулася збедненай, спрошчанай. У артыкулах, прысвечаных дадзенай праблематыцы, разгледжаны і прааналізаваны пралікі і недахопы, дапушчаныя аўтарамі перакладаў. Пры аналізе прычын адступленняў перакладчыкаў ад арыгінальнага тэксту твораў даследчыку дапамаглі новыя архіўныя матэрыялы, звязаныя з гісторыяй перакладу і рэдагавання “Новай зямлі” і “Сымона-музыкі”.

У кнізе паказваецца роля закладзеных Коласам мастацкіх традыцый як фактару актыўнага фарміравання літаратуры, інтэнсіўных наватарскіх тэматычна-праблемных, жанрава-стылёвых пошукаў, пошукаў новага героя, новых вобразна-выяўленчых сродкаў.

Зроблена таксама спроба па-новаму вырашыць некаторыя тэксталагічныя праблемы, звязаныя з аднаўленнем аўтарскай творчай волі ў аповесці “Адшчапенец”, з выбарам асноўнага тэксту першай рэдакцыі паэмы “Сымон-музыка”, трылогіі “На ростанях”, “Методыкі роднай мовы”, з перапрацоўкай і публікаваннем лірыкі Коласа “нашаніўскага” перыяду. Закрануты і пытанні тэксталогіі публіцыстычных і літаратурна-крытычных артыкулаў.

На думку аўтара зборніка «Мае “Каласавіны”», аб’ектыўнага вывучэння і незалежнай ацэнкі чакае і паэма “На шляхах волі”. Шмат нявысветленых пытанняў датычаць гісторыі напісання твора і яго жанравай формы. Традыцыйна яго адносяць да паэмы, але дэталёвы аналіз зместу, вобразнай сістэмы, прынцыпаў раскрыцця характараў, наяўнасць некалькіх сюжэтных ліній, а таксама абмалёўка прыватнага, асабістага жыцця чалавека на фоне гістарычных падзей і грамадска-палітычных зрухаў сведчыць пра тое, што твор “На шляхах волі” мае ўсе падставы быць названым не ліра-эпічнай паэмай, а вершаваным раманам. Гэта сведчыць пра актыўныя наватарскія пошукі Коласа ў галіне ліра-эпічнай творчасці, узбагачэнне яго жанравага, стылёвага патэнцыялу.

Асобная гаворка Міхасём Мушынскім вядзецца таксама пра распрацоўку Коласам тэмы дзяржаўна-культурнага будаўніцтва, а таксама пра выкарыстанне яго ідэйна-мастацкіх набыткаў у сённяшнім грамадскім жыцці, у сучасных сацыяльна-культурных умовах.

Як вядома, Якуб Колас вёў актыўнае творчае, грамадскае жыццё, сутыкаўся з рознымі людзьмі, займаў шэраг адказных пасад, а людзі, якія былі побач з ім, безумоўна, пэўным чынам уплывалі на яго. Таму сярод праблем, непасрэдна звязаных з жыццём і творчасцю Якуба Коласа, недастаткова поўна вывучанай бачыцца якраз і праблема асяроддзя, у якім жыў і працаваў пісьменнік, і ўласна літаратурнага, і грамадска-культурнага, і нават дамашняга, побытавага. У кнізе гэтаму пытанню прысвечаны артыкулы з раздзелаў “Якуб Колас і яго акружэнне” і “Максім Гарэцкі і Якуб Колас”.

Знаёмства з матэрыяламі зборніка «Мае “Каласавіны”» адкрые перад чытачом шмат новага, цікавага і карыснага, а пытанні, якія ў ім уздымаюцца, заахвоцяць даследчыкаў да новых пошукаў, да спасціжэння новых глыбінь творчасці Якуба Коласа. Нездарма некаторыя артыкулы, змешчаныя ў зборніку, у прыватнасці тыя, дзе размова ідзе пра галоўныя, этапныя творы Якуба Коласа, уключаліся ў выданні вучэбна-педагагічнага профілю.

Думаецца, што ў кнізе, дзе творчасць Вялікага песняра асэнсавана праз прызму высокай меры не толькі літаратуразнаўчай думкі, але і асабістых перажыванняў і ўражанняў сапраўднага вучонага, адкрыюць шмат новага для сябе не толькі вучоныя-літаратуразнаўцы, студэнты-філолагі, настаўнікі беларускай літаратуры, але і самае шырокае кола чытачоў.

Таццяна ВАЛОДЗІНА

# Даследуецца фальклор

**Як стаць фалькларыстам? Як стаць навукоўцам? Цяжка адразу адказаць на такія пытанні. Цяжка нават вызначыць: фалькларыст і навукоўца — гэта адно і тое ж альбо не. Мае названая праблема і яшчэ адзін аспект: як стаць навукоўцам самому і дапамагчы ў гэтым сваім вучням; як выгадаваць даследчыка? Упэўнена, абсалютная большасць выкладчыкаў, кіраўнікоў курсавых, дыпломных, магістарскіх і г.д. работ пагодзяцца са мною адразу ж — навучыць даследаваць вельмі і вельмі цяжка.**

Як наглядны ўзор такой карпатлівай, шматпрыступкавай і ў многім выніковай справы выступае зборнік “Фалькларыстычныя даследаванні. Кантэкст. Тыпалогія. Сувязі: зб. арт. Вып. 7”. Навуковымі рэдактарамі выступілі знаныя і паважаныя фалькларысты Рыма Кавалёва і Вольга Прыёмка. У цэлым зборнік адлюстроўвае тую вялізную працу па вывучэнні і папулярызацыі вуснай народнай спадчыны, якая ажыццяўляецца кафедрай тэорыі літаратуры, вучэбна-навуковай лабараторыяй беларускага фальклору і студэнцкай навукова-даследчай лабараторыяй на філалагічным факультэце БДУ.

Звяртае на сябе ўвагу, што гэта сёмы выпуск, свайго роду юбілейны, які ўжо дазваляе канстатаваць наяўнасць цэлай серыі. Зборнік традыцыйна ўключае раздзелы, прысвечаныя асноўным кірункам фалькларыстычных пошукаў: “Фальклор у кантэксце культуры”, “Фальклор — міфалогія — магія”, “Традыцыйны фальклор беларусаў: жанры, віды, паэтыка”, “Фальклор — літаратура — мова”. Несумненна каштоўнымі выступаюць змешчаныя ў зборніку матэрыялы Рэспубліканскага навукова-метадычнага семінара “Праблемы выкладання фальклору і этналогіі ў ВНУ і іншых навучальных установах”. Сваім вопытам і набыткамі дзеляцца выкладчыкі з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Беларускага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны. Грунтоўны і зацікаўлены аналіз сучасных даведачных выданняў правяла Р. Кавалёва. І хоць аўтарка скіроўвалася на задачы інфармацыйнага забеспячэння курса “Фалькларыстыка” і навукова-даследчай работы студэнтаў, гэты аналіз несумненна карысны для рэдактараў і саміх аўтараў энцыклапедычных слоўнікаў па фальклоры і міфалогіі.

У артыкулах зборніка перад чытачом паўстае займальны і багаты свет беларускага фальклору. Пад увагу трапляюць і лёс уладароў заклятых скарбаў, вобраз міфічнага Дуная ў народнай лірыцы, семантычны комплекс сіраты, паселішча ў мастацкім свеце каляндарна-абрадавых песень. Самыя розныя пазіцыі міфапаэтычнай карціны свету атрымліваюць сваё асвятленне ў артыкулах зборніка. Гэта і дэманалагічны складнік — праз вобразы дамавіка і русалкі; астранамічны — у доследах ролі месяца; семантычны — у выяўленні міфасемантыкі вачэй; заалагічны — праз вобраз казы і інш. Шэраг традыцыйных жанраў беларускага фальклору стаў аб’ектам увагі (прыказкі, загадкі, замовы, балады, песні, казкі і г.д.). Сваё, беларускае, больш выяўна высвецілася на фоне іншаславянскіх супастаўленняў — з чэшскім, балгарскім фальклорам. Чытач знойдзе ў зборніку і артыкул, прысвечаны знакавым элементам нарвежскага быту.

З пачатку зборніка высокую даследчыцкую планку задаюць працы беларускіх этнамузыказнаўцаў — Тамары Якіменкі, Таццяны Бярковіч, Таццяны Пладуновай і інш. Арыгінальныя доследы, вытрыманыя метадалагічныя падыходы, карэктны стыль выкладання — усё гэта характарызуе дадзены блок з самага лепшага боку. Трымаюць планку і літаратуразнаўцы, артыкулы якіх дадаюць шмат новага ў галіну даследавання творчага скарыстання прафесійнымі аўтарамі фальклорных набыткаў.

А вось “міфолагі” выступаюць тут студэнцкім калектывам, у якім ёсць нават першакурснікі. Вядома ж, прыемна адчуваць сярод моладзі зацікаўленасць нашай духоўнай спадчынай, аднак часам простае перапісванне імі ўжо вядомых прац крыху бянтэжыць. Застаецца спадзявацца, што суседства ў зборніку з прафесійнымі даследчыкамі стане для пачаткоўцаў добрым узорам і будзе не толькі натхняць, але і спрыяць засваенню правілаў навуковай этыкі. Пытанне даверу студэнцкім фальклорным запісам у апошнія гады паўстала асабліва востра, таму да асобных цытат першапачаткова ставішся досыць крытычна. У дадзеным выпуску звяртае на сябе ўвагу шэраг несумненна арыгінальных запісаў, з неблагой для студэнта перадачай дыялектных уласцівасцей мясцовых гаворак. Праўда, у асобных выпадках “выказванні” бабуль выклікаюць усмешку. Хочацца верыць, што студэнты, ды і аспіранты і нават даследчыкі, будуць ставіцца да кожнага слова нашых рэспандэнтаў з вялікай увагай і пашанай.

Менавіта гэты выпуск засведчыў пашырэнне ўвагі да сучаснага гарадскога фальклору. У гэтым блоку заўважна вылучаюцца артыкулы Вольгі Корсак, прысвечаныя назвам сталічных аб’ектаў і прыкметам і правілам, распаўсюджаным у студэнцкім асяроддзі. Даследчыца пераканаўча і на багатым, сабраным ёй жа матэрыяле паказвае, як напаўняюцца новым матэрыялам традыцыйныя схемы, як на аснове архаічных міфалагем спараджаюцца новыя тэксты. Цікавым падаецца і артыкул Лілі Пішчык, якая распавяла пра дзіцячы фальклор Берасцейшчыны, выходзячы з уласнага вопыту.

Сёмы выпуск “Фалькларыстычных даследаванняў” узбагаціўся і такім раздзелам, як “Матэрыялы для энцыклапедый і слоўнікаў”. Вядома, энцыклапедычны артыкул вымагае вялікага майстэрства ў выкладцы матэрыялу і ведаў аўтара, бо параўнальна невялікі аб’ём мусіць быць вельмі змястоўным. Тут хочацца адзначыць арыгінальны і інфарматыўны артыкул Т. Марозавай “Армейскі (салдацкі) фальклор”.

Няма сумненняў, зборнік цікавы і карысны ў многіх сваіх пазіцыях — і як блок новых матэрыялаў, крытычна-аналітычных даследаванняў, сустрэч з новымі імёнамі і ўжо прызнанымі аўтарытэтамі. Аднак, як мне падаецца, найпершае значэнне зборніка ў яго ўключанасці ў навукова-адукацыйны працэс. Ён сваімі матэрыяламі і нават канцэпцыяй адлюстроўвае рэальны стан фалькларыстычных даследаванняў у беларускіх вышэйшых навучальных установах. І на завяршэнне хацелася б вярнуцца да пастаўленага ў пачатку пытання: як выгадаваць праўдзівага даследчыка-фалькларыста? Як навучыць адрозніваць рэферат, эсэ, пераказ ад самастойнага навуковага даследавання? Як прывіць павагу не толькі да носьбітаў традыцыі, але і да сваіх калег, працамі якіх ты карыстаешся? Даводзіцца прызнаць: вельмі і вельмі няпроста. Таму і радуе, што ў беларускіх ёсць магчымасць вучыцца ўсім разам — у тым ліку на старонках чарговых выпускаў “Фалькларыстычныя даследаванні”.

Вольга НІКОЛЬСКАЯ

# Гронка гісторыі



**"Ён піша гісторыю Беларусі, прытым не агульнымі словамі, якімі "наструганa" ўжо безліч адвольных гістарычных твораў. Піша канкрэтную Беларусь, піша яе гісторыю ў асобах, што, безумоўна, і цяжка, і накладна, хаця быць першаадкрывальнікам — справа надзвычай ганаровая". Так пра пісьменніка, вядомага крытыка і літаратуразнаўца Алеся Марціновіча піша другі не менш вядомы пісьменнік і крытык Віктар Гардзей.**

Серыя кніг "Гісторыя ў асобах" не так даўно папоўнілася чарговым выданнем, кнігай "Рагнеда і рагнедзічы". Цікавая назва, з Рагнедай усё зразумела, але які сэнс нясе паняцце *рагнедзічы*? Пісьменнік прадбачыць пытанне дапытлівага чытача, таму ва ўступе, які, дарэчы, называецца "Замест уступу", тлумачыць логіку ўвядзення такога паняцця. Паводле Радзівілаўскага летапісу, у Рагнеды і Уладзіміра акрамя сына Ізяслава было яшчэ трое сыноў — Яраслаў, Мсціслаў і Усевалад, а таксама дзве дачкі. У гістарычнай літаратуры сустракаюцца назвы "Рагваложыя ўнукі": Яраславічы ў адносінах да нашчадкаў Яраслава Мудрага, аднаго з сыноў Рагнеды і Уладзіміра, Ізяславічы ў гонар старэйшага сына Рагнеды, Рурыкавічы. Аднак кожнае з гэтых абазначэнняў не ахоплівае цалкам род Рагнеды. У сваёй кнізе Алесь Марціновіч піша як пра Рагнеду і Уладзіміра, так і пра іх дзяцей і ўнукаў. "Рагнедзічы... пад гэтае вызначэнне трапляюць не толькі дзеці Рагнеды і Уладзіміра, але і ўнукі, таму што ва ўсіх іх цячэ кроў Рагнеды. Кроў маці, бабулі... У славян жа, не будзем забываць, асабліва шанавалася жанчына, дзякуючы якой і прадаўжаўся людскі род...".

Кніга Алеся Марціновіча складаецца з шасці аповесцей. Першая з іх — "Рагнеда, Гарыслава, Анастасія". Гэтыя імёны нібыта назвы главаў з летапісу жыцця полацкай княгіні. Рагнедай яе назвалі бацькі, Гарыславай дзяўчына стала пасля шлюбу з забойцам свайго бацькі, імя Анастасіі Рагнеда атрымала ўжо калі была манахіняй. Гісторыя нялёгкага лёсу Рагнеды вядома амаль усім яшчэ са школы. Аднак вядомы найбольш значныя моманты з яе біяграфіі, без падрабязнасцей і тлумачэнняў. Але менавіта падрабязнасці адыгрываюць нямалую ролю ў нашым жыцці, яны дапамагаюць зразумець асобныя ўчынкі і паводзіны людзей. Такіх цікавых малавядомых фактаў дастаткова ў кнізе Алеся Марціновіча. Напрыклад, мяне заўсёды здзіўляла "звярыная лютасць", з якой павёў сябе ноўгарадскі князь Уладзімір у дачыненні да Рагнеды і яе бацькоў: на вачах у маці і бацькі полацкага князя Рагвалода згвалціў Рагнеду, пасля чаго засёк князя. Гэтая трагедыя адбылася толькі з-за таго, што Рагнеда адмовіла Уладзіміру і абрала яго брата, на той час кіеўскага князя Яраполка? Безумоўна, выбар Рагвалодавай дачкі непрыемна здзівіў ноўгарадскага князя, але ў такой жорсткасці была яшчэ адна прычына — абраза, якую нанесла Рагнеда Уладзіміру. Калі да Рагнеды прыйшлі сваты, яна не проста адмовіла ім, а і патлумачыла сваё рашэнне — "не хачу разуваць рабыніча". Рагнеда Рагвалодаўна намякала на паходжанне князя: Уладзімір быў пазашлюбным сынам князя Святаслава Ігаравіча і ключніцы княгіні Вольгі, бабкі Уладзіміра. "Гэта была аплявуха, ды яшчэ якая. Паводле тагачасных звычаяў, жонка перад сном мужа разувала. Рагнеда тым самым не проста не хацела ісці замуж за Уладзіміра, яна не жадала прыніжаць сябе перад тым, хто, згодна яе ўяўленням, быў чалавекам другога гатунку, "рабом". Князь, канечне, не мог забыць гэтыя абразлівыя словы. Ён дасягнуў сваёй мэты: Рагнеда стала яго жонкай. Ці магла маладая гордая дзяўчына жыць з забойцам свайго бацькі? Магла, і жыла ў каханні, сцвярджае Алесь Марціновіч. Рагнеда незаўважна для сябе палюбіла мужа, і ён адказваў ёй тым жа. Нягледзячы на вялікую колькасць жонак, "Рагнедзь", як пяшчотна называў яе Уладзімір, была яго любімай. Што ж прымусіла жонку занесці нож над каханым мужам? Яго здрада. Уладзімір канчаткова вырашыў увесці на Русі хрысціянства, таму мусіў хрысціцца сам. Паводле ж хрысціянскай веры мужчына можа мець адну жонку. Князь жа даўно хацеў парадніцца з візантыйскім дваром. Такая магчымасць у яго з'явілася. У Кіеў прыехала грэчаская царэўна Ганна, яна стала яго жонкай. Для сваіх былых жонак Уладзімір, як клапатлівы муж, адшукаў годных "мужоў". Усе пагадзіліся з такім рашэннем, акрамя Рагнеды. Здрада мужа развярэдзіла былую рану. Крыўда, боль, абражаны жаночы гонар нарадзілі нянавісць у душы Рагнеды. "Чалавек з уласнымі поглядамі, думкамі, пачуццём жаночага гонару". Такой бачыць яе Алесь Марціновіч. Менавіта такія апісанні характараў герояў і робяць творы пісьменніка гісторыяй у асобах, нашы славутыя продкі прымаюць постаці простых людзей, прадстаюць у вобразах мужчын, здольных на здраду, пакрыўджаных каханымі жанчын, а таксама любячымі і мудрымі братамі. Менавіта так характарызуе пісьменнік аднаго з сыноў Рагнеды і Уладзіміра тмутараканскага князя Мсціслава.

"...Мсціслаў Уладзіміравіч з'яўляўся чалавекам надзіва сардэчным. За баявую зброю ён браўся толькі па неабходнасці. А так надта любіў бавіць час на паляванні. Але і тут у многіх выклікаў здзіўленне. Часам, калі, здавалася б, лёс мядзведзя ці аленя вырашаны, мог адмовіцца страляць у звера. Рука не падымалася, каб забіць яго". У тыя часы спрэчкі паміж братамі за землі былі звычайнай справай. Так некалі па загадзе Уладзіміра забілі яго брата Яраполка. Ваяваць за Чарнігаў давялося і сынам Уладзіміра Яраславу і Мсціславу. Вырашальная бітва адбылася пад Ліственам. У ёй перамог Мсціслаў. І толькі пасля чарговай крывавай бойкі Мсціслаў Уладзіміравіч зразумеў, як павінны браты вырашаць спрэчныя пытанні. "... Менавіта ў гэты момант у яго з'явілася думка, што, бадай, лепей будзе, калі ў далейшым ён перастане ваяваць са сваім братам". Русь жа адзіная, навошта ім дзяліць яе, калі і так шмат праліта ўжо крыві. Спрэчныя ж моманты трэба паспрабаваць вырашыць мірным шляхам". Мсціслаў прапаноўвае брату мір. Хоць і не адразу, але Яраслаў згаджаецца. "Вобразна кажучы, прайшоўшы праз Ліствен, абодва набраліся мудрасці, якая не меней значыць, чым воінская адвага, а ў тых выпадках, калі можна абысціся без крыві, яшчэ больш, чым яна". Сама аповесць называецца "Прайсці праз Ліствен". І невыпадкова: менавіта Ліствен стаў тым месцам, дзякуючы якому сыны Уладзіміра пачалі жыць у міры, і гэта паўплывала не толькі на іх, але і на жыццё іх нашчадкаў.

Дарэчы, назвы ўсіх шасці аповесцей шматзначныя. У кожнай прыхаваны пэўны сімвал. Напрыклад, у творы "Салодкая гронка рабіны", які прысвечаны ўнучцы Рагнеды Анастасіі Яраслаўне. Галоўная гераіня сама нібыта спелая гронка рабіны, маладая і надзвычай прыгожая. Дачка Яраслава Мудрага вельмі прагная да ведаў і кніг. А яшчэ яна здольная на сапраўднае каханне, моцнае і самаахвярнае. Яе жаніхом становіцца венгерскі нашчадак Эндрэ. Дарэчы, у гэтым творы пісьменнік выступае не толькі як знаўца мінулага свайго народу, але і як сапраўдны гісторык, які ведае і шляхі развіцця суседніх з намі краін. Алесь Марціновіч вельмі даходліва апісвае палітычную сітуацыю ў Венгрыі, якая склалася ў час прыходу да ўлады караля Эндрэ.

Усе кнігі Алеся Марціновіча, нягледзячы на складаны гістарычны матэрыял, які ён разглядае, чытаюцца надзвычай лёгка. У чым жа феномен аўтара? У гарманічным спалучэнні гістарычнай праўды і надзвычайнай мастацкасці ў яго творах. "Пра тое, што восень гатова вось-вось заявіць аб правах гаспадыні, напамінала хіба што першая пазалота на дрэвах. Яны, як кінуць вокам, сталі ў спалучэнні двух колераў — зялёнага, што ахоплівае лістоту ледзь не цалкам, і жоўтага, які, прагнучы прыйсці яму на змену, пажадлівым языком паспеў ужо сям-там пакласці свае прыкметныя мазкі, якія так хораша гарманіравалі з зялянінай". Аўтара цікавіць усё: гісторыя яго краіны, узаемаадносіны людзей, прыгажосць родных краявідаў. А цікаўнасць гэта ўзнікае ад любві, ад шчырай і самааданай любві да свайго краю. Згодны з гэтай думкай і Віктар Гардзей: "Душа Алеся Марціновіча — канечне ж, у роднай Беларусі, у яе мінулым, у яго цудоўных кнігах. Мінуўшчыну ён і адкрывае праз гісторыю ў асобах, і робіць гэта дзеля таго, каб зжылося ў нас нацынальнае бяспамяцтва, якому, на жаль, навокал яшчэ багата прыкладаў". ...Дзеля таго, каб у кожнага з нас была свая салодкая гронка рабіны...



# У простыя словы ўкладаецца вера

**Амаль заўсёды самы першы верш пішацца пра каханне: жаданае, прадбачанае, знойдзенае ці згубленае, перажытае, адцвіўшае. Першы верш кладзецца на паперу нясмела і няўпэўнена ў салодкім пачуцці ці рашуча, размашыста ў горкім першым адчаі. Вельмі часта і першая кніга паэта бывае прысвечана каханню. Але пра каханне — другая кніга гомельскай паэтэсы Таццяны Нілавай.**

Алена ПЛЕШКУНОВА

Дэбютавала яна ў 2008 годзе зборнікам выкшталцоных, іранічных і трохі містычных беларускіх вершаў "Готыка тонкіх падманаў". Т. Нілава ўжо паказала сябе як неардынарная беларускамоўная паэтэса, у новай жа кнізе "Пять тысяч километров по любви" яна вырашыла выпрабаваць сваё версіфікатарскае майстэрства на рускай мове. Пры параўнанні дзвюх кніг падаецца на першы погляд, што вершы на рускай больш простыя і менш глыбокія. Вобразы першай кнігі сапернічалі па сваёй складанасці і загадкавасці са старажытнаісландскімі кенінгамі (*"нішчымніца ночы"*, *"цнота паштовак"*, *"узрост маральнай чысціні"*); вобразы ж другой кнігі кранальныя і простыя — як раскрытая далонь (*"Луну, как зеркальце девичье, / открою в ветреном окне"*, *"чтоб не село сердце на мель"*, *"В лужах глубоких / небо створожится"*). Але ўважлівае знаёмства з новым зборнікам упэўнівае, што вельмі часта за гэтай вонкавай прастатою — вялікая праца душы, якая адраджаецца з папялішча: ёй не трэба вытанчаных эксперыментаў, эпатажу, ёй трэба лекі. І гэтыя лекі Таццяна Нілава знаходзіць у звыклым — у яднанні з прыродай, з Космасам (*"Люби меня, / как любят пустоту, / и обнимай, Вселенной наполняя"*), з традыцыямі народа (*"Приму тебя, как драгоценный дар. / Заговорю молитвами шептухи"*). Каханне паэтэсы няпростае, выпакутаванае і страчанае, ды ўсё ж вялікая асабістая трагедыя Т. Нілавай не абцяжарвае чытача, не абдае смяротным холадам, наадварот, паэтэса дае надзею, узвышаючыся над прыватным, сягаючы да трагедый Сусвету.

І хоць у назве кнігі смела і незавуаліравана заяўлена тэма кахання, зборнік не толькі пра пачуцці. Кніга пра гармонію свету, пра веру, пра жах апошняй мяжы. Дасканалая рытміка верша зачароўвае, верш пульсуе, Т. Нілава выдыхае верш. І нягледзячы на цудоўную сугестыўнасць, такая магія верша часам дасягаецца за кошт пэўнага зацямнення сэнсу. Ёсць вершы — зрокавыя вобразы, нявыказаныя, нявытлумачаныя, іх паэтэса дазваляе запоўніць кожнаму самастойна. Рэальныя, нават бытавыя абгрунтаванні вобразаў даюць арыгінальны, рэзкі скок ад бытавога плана да філасофскага (як, напрыклад, адбываецца ў вершы "Жёлтый лимон"). Вобразы аўтаркі нешаблонныя, вынаходлівыя, натуральныя, часам яны выходзяць за межы звычайнай свядомасці (*"В банке консервной / портится жизнь..."*, *"Ночи обычно выдают / в круглых лунных таблетках..."*). Думкі аўтаркі скандэнсаваныя, лаканічныя, глыбокія і не заўсёды зразумелыя, містычны экстаз часам не знаходзіць адэкватнага выражэння ў рацыянальным слове: *"Но и взрослые / всё равно растут, / как если бы выросшую сосульку / перевернули и дали стекать — / выросла бы новая. / И жизнь / имеет форму песочных часов"*. Паэтэсе ўласцівая афарыстычнасць: *"Вся вера ложится в простые слова. В пустые — молва"*. І ў гэтай сціслай і глыбокай фразе быццам бы зафіксавана скразная ідэя кнігі. Гэтай прастатой Т. Нілава ратуе нас і ратуецца сама — *"Люди откалываются, / будто льдинки в капель. / Жизнь состоит / из упавших капель"*. Лёгкія біблейскія алюзіі заглыбляюць павярхоўныя падзеі будзённасці ў вершах паэтэсы: *"Блаженны плачущие / и утоляющие скорби, / и слёзы их врачуют. / Блаженны, / ибо в утешении / состоит их высшее благо"*; *"Прошу душе насущной — / хлеба"*; *"в каждой душе умер Христос / и в каждой — воскрес"*. Настойліва ў творах паўтараецца шматзначны для інтэрпрэтацый і бяздонна глыбокі хаямаўскі матыў "віна ў пасудзіне": *"осеннее вино хмельного листопада"*, *"любить тебя, как пить из чаши яд"*, *"Как будто бы мы — единственные, изгнанные из рая, наполненные чувством, и нет сосуда его перелить?!"*. Пераліваючы жыццё і смерць, каханне і нянавісць у клепсідры быцця, паэтэса супраціўляецца паўсюднаму абясцэньванню жыцця, прасейвае праз сіта сваёй душы складанасці існавання, пакідаючы дзеля асэнсавання толькі простыя, закончаныя, няхітрыя рэчы.



Тацяна Мушынская

## Мы абмяняемся пяшчотаю сваёй…

### *Невымоўнае*

*А галоўнае намі не сказана —*
*Летуценнае і невыказнае.*
*І пужлівае, зманліва-мройнае.*
*І вясновае, нова-зялёнае.*

*А галоўнае — не! — не прамоўлена —*
*І пяшчотнае, і невымоўнае.*
*Усё чароўнае, вабнае, чулае,*
*Усё чуллівае, сэрцам пачутае.*

* * *

*Мы абмяняемся пяшчотаю сваёй*
*Ў бясконцы міг бясконцага спаткання.*
*І нашы целы будуць толькі*
*Празрыстай, крохкай абалонкай*
*Дзвюх душ, якія мараць*
*Пра тое, каб з'яднацца назаўжды.*

* * *

*Як згасне месяца сіла*
*У яркіх, сонечных промнях,*
*Як разгараецца дзень*
*І моцы сваёй набірае, —*
*Хісткія цені начныя,*
*Што жывяць прывіды-мары,*
*Растануць, знікнуць і сыдуць,*
*Нібыта іх не было.*

* * *

*Чаму не ўмею я цвяроза разлічыць*
*Наяўны час, адлегласць і пачуцці?*

*Як разлічыць мне час? То ён імкне, ляціць*
*З неверагоднай хуткасцю касмічнай.*

*А то стаіць на месцы, нерухомы.*
*Як палічыць адлегласці, калі*
*Яны то сціснуцца,*
*то раптам, нечакана,*
*Адкрыюць цалкам невядомую прастору?*

*А як пачуцці можна разлічыць?*
*Пачуцці — водар.*
*Водар — толькі піць!*

* * *

*Сонца праменне сваё раскідала,*
*Промні спагады і промні красы.*
*Вабяць бясконцыя сінія далі,*
*Вабяць пагоркі, палі і лясы.*

*Сонца на хвалях гайдаецца рэчкі,*
*Промні яго заблукалі між траў.*
*Знак прыгажосці і водгулле вечнасці,*
*Дзе толькі сонечны промень упаў.*

*Сонца гарэзіць у лесе таемным,*
*Вецер гуляе вяршынямі дрэў.*
*Водары кветак, птушыныя трэлі*
*Летняга лесу складаюць напеў.*

* * *

*На аргане ружовым*
*Сасновага гонкага бору*
*Вецер нястомны*
*Замест арганіста іграе.*

* * *

*Ці зможа халодны мой розум*
*Адолець пачуцці гарачыя?*
*Ці будзе тады перамога*
*Маёю душэўнай удачаю?*

*Калі пачуцці як полымя,*
*Калі пачуцці як лава,*
*Я лаву у песні ўсю выллю,*
*Мне будзе самота і слава.*

*Няўжо раўназначнай для сэрца*
*Такая замена быць можа?*
*Разблытай заблытаны вузел,*
*О ты, усемагутны Божа!*

* * *

*Душэўны шторм...*
*Ён гоніць, гоніць хвалі*
*З глыбінь свядомасці да берага зямлі.*
*І праўду хвалі ў крыўдзе пахавалі,*
*Спагадных думак затапілі караблі.*

*Магутнасць водаў*
*грозны шторм шпурляе,*
*Кружляе хіжае,*
*злавеснае крыло...*
*А ранкам хваля гэтак светла ззяе,*
*Нібыта ўчора шторму не было.*

* * *

*Усведамленне хуткасці жыцця*
*Нам поўніць сэрца роспаччу і скрухай.*
*У парывах злых душэўнай завірухі*
*Здаецца, усё! — прыйшоў канец быцця.*

*Ды ты не вер завеі і бядзе!*
*Яны скуголяць, быццам воўк на поўню.*
*Аціхне бура, будзе сонца поўна,*
*І радасць прыйдзе ў новай чарадзе.*



*Фота Кастуся Дробава*



Алесь Макрацоў

* * *

*Весткі з вёскі,*
*Як з перадавой:*
*страты,*
*страты,*
*страты…*

* * *

*Цела*
*без душы…*
*Хата*
*без мамы…*

* * *

*Не скажа мама*
*суседкам болей:*
*"Скора*
*Шура прыедзе…"*

* * *

*Выпарэнне*
*нямоглых душ,*
*выпадзенне*
*плоці ў асадак…*

* * *

*Адзінота…*
*Сусвет —*
*сціснуў душу.*

* * *

*На дуб векавы*
*высока*
*узлез хлапчук…*
*Ці здолее злезці?*

* * *

*Погляды*
*юнака ў будучыню,*
*старога —*
*ў мінулае…*

* * *

*Спаткаў на дарозе*
*ранішняй*
*Ліду Андрэеўну…*
*Першую настаўніцу.*

* * *

*Вяртанне душы*
*да Бога…*
*Вера —*
*праведны шлях.*

* * *

*Залацістыя,*
*пераспелыя,*
*наліўныя антонаўкі*
*сіратліва*
*ўсцілаюць дол…*

* * *

*Эмацыянальныя,*
*нястрыманыя*
*словы…*
*Пырскі фантана…*

* * *

*Перайшоў*
*мяжу…*
*Не здолеў*
*вярнуцца.*

* * *

*Спаў адзетым*
*на прасціне…*
*Як стомлены*
*звер на снезе.*

* * *

*Чалавек —*
*іерогліф*
*сярод літар*
*прыроды…*



Леў Парэмскі

## Дзве балады

### *Пра Героя Савецкага Саюза Зіну Тусналобаву*

*Яна ляжыць на снежным полі.*
*Не ўбачыць родных ёй ніколі.*

*І не пачуць сяброў вясёлых,*
*Бо вунь яны ляжаць наўкола.*

*І не ідзе з душы самота.*
*Ляжыць на снежным полі рота.*

*Журба смяротнага спакою —*
*Заключны акт разведкі боем.*

*Крыві нямераная страта.*
*Не дапаўзці да медсанбата.*

*І не дастаць да пісталета.*
*Няма ўжо сілы і на гэта.*

*І не для аблягчэння стану*
*Мароз крывёй зашкляе раны.*

*Над снежным полем дзень згасае.*
*Што будзе жыць, яна не знае…*

*А ёй, бязрукай і бязногай,*
*Жыццё гадоў адмерыць многа.*

*І прэч цяжар з душы адкіне.*
*І зробіць вечнай гераіняй.*

### *Пра ціхмяную жанчыну*

*Была заўжды негаваркою,*
*Ціхмянай, сціплаю была…*
*І засталася б мо такою,*
*Калі б не жорсткая вайна.*

*Калі б фашысцкая навала*
*Мінула ціхае сяло.*
*Пры ёй усё інакшым стала.*
*Аднойчы гэтак во было.*

*— Важак бандыцкага атрада,*
*Чый муж?*
*Адказвайце хутчэй!*
*Ды гром фашысцкага загаду*
*Не ўскалыхнуў натоўп людзей.*

*Праходзіць пяць хвілін.*
*Маўчанне.*
*І карнік-камандзір злуе:*
*— Выходзіць — цяжкае пытанне.*
*Ну што ж, я сам знайду яе.*

*І, быццам меў ён нюх сабакі,*
*Узяў адразу верны след —*
*Жанчыну з дзіцянём няўзнакі*
*Ён выдзеліў з усіх кабет.*

*І загадаў з натоўпу выйсці,*
*Сам стаў расшпільваць кабуру…*
*Ніхто з бяды не бачыў выйсця,*
*Клялі ўсе ў думках немчуру.*

*А карнік цэліўся. Дзіцяці*
*Было няцяжка разумець,*
*Што праз секунду*
*разам з маці*
*Яму, дзіцяці, будзе смерць.*

*І стала кідацца малое,*
*Трымцець на матчыных грудзях…*
*Тады і здарылася тое —*
*І веліч, і пакутны жах.*

*Заўжды ціхмяная жанчына*
*З натоўпу выгукнула: — Я!..*
*Я — камандзірская дружына,*
*А значыцца, і смерць мая.*

*Ад гэтых слоў пачырванела —*
*Муж быў за светам паліцай…*
*І перад руляй стала смела:*
*Маўляў, вось так,*
*цяпер страляй!*

*Схавала ўсіх самаадданасць,*
*Ціхмянасці рашучы крок…*
*І, перамогшы нечаканасць,*
*Націснуў карнік на курок.*

*Павезла прэч яго машына…*
*А ў пыле перад грамадой*
*Ляжала сціплая жанчына —*
*Красуня тварам і душой.*

# Між песняй і арыяй



Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ

**Упершыню пабываўшы на канцэрце саліста Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ігара Задарожнага, я парадаваўся, што ў нас, у Беларусі, такая таленавітая моладзь. Акрамя таго, што Ігар Задарожны мае вельмі прыемны барытон, які гожа гучыць у оперным і камерным рэпертуары, ён яшчэ і мультыінструменталіст: іграе на саксафоне, баяне, фартэпіяна, на ўдарных і народных інструментах. Ён арганізатар сольных канцэртаў, у тым ліку і сваіх. А таксама піша музыку, тэксты сваіх песень, займаецца аранжыроўкай... Яшчэ некалькі разоў наведваў яго канцэрты . Прынамсі ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі паслухаў праграму, прысвечаную памяці незабыўнага Мусліма Магамаева. У выкананні Ігара Задарожнага гучалі песні з рэпертуару выдатнага спевака. Пасля канцэрта мы пагутарылі з Ігарам Задарожным.**

**— Раскажыце, калі ласка, пра сябе.**

— Нарадзіўся я ў Брэсце ў 1979-м. Бацькі мае з тэхнічнай адукацыяй. А ў мяне яшчэ ў дзіцячым садку педагогі-выхавацелі прыкмецілі музычныя здольнасці, таму бацькі вырашылі аддаць у школу з музычна-харэаграфічным ухілам, ды чамусьці ў харэаграфічны клас. Але з цягам часу музыка ўсё ж узяла верх, хаця я працягваў танчыць у розных дзіцячых і юнацкіх калектывах, а з часам — у сваіх сольных канцэртах.

**— Дзе набылі прафесію?**

— Паступіў вучыцца ў Брэсцкі музычны каледж імя Р. Р. Шырмы на народнае аддзяленне ў клас выдатнага педагога Віктара Шышакоўскага. Віктар Феафілавіч — Педагог з вялікай літары. Займаўся ў яго па класе баяна. Настаўнік дапамог мне ўвайсці ў прафесійны свет цудоўнай музыкі і палюбіць гэтае высокае мастацтва… З другога курса музычнага каледжа (паралельна баяну) я пачаў асвойваць саксафон і сур'ёзна цікавіцца вакалам. На той час я ўжо спяваў у царкоўным хоры і марыў спасцігнуць азы вакальнай школы. У гэтым мне напачатку дапамог таленавіты педагог, спявак Сяргей Панасюк. Ён навучыў мяне не толькі акадэмічнаму спяванню. Мяне ўвесь час цягнула да эстрады, замежнай эстрады 1960 — 1970-х, і асвоіць гэтую сферу дапамог мне Сяргей Іванавіч. Навучыў нават акампанаваць сабе ў джазавым стылі, за што я яму вельмі ўдзячны. Тады ж, трапіўшы па дырыжыраванні ў клас дырыжора аркестра цырка, артыста Уладзіміра Рыжкова, я ўсур'ёз заняўся кампазіцыяй. За час навучання ў Брэсцкім музычным каледжы імя Р. Р. Шырмы напісаў некалькі п'ес для цымбальнага аркестра, баяна і фартэпіяна, для іншых музычных інструментаў. На дзяржаўным экзамене ў каледжы я выконваў свае ўласныя музычныя творы ў праграме па спецыяльнасці і дырыжыраваў аркестрам. А скончыў каледж у 1999 годзе па класе баяна.

**— А потым?**

— Адразу паступіў у Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі. І ў гэтым на мой лёс паўплываў таксама Сяргей Іванавіч Панасюк. Ён рэкамендаваў паспытаць шчасця — паступіць у акадэмію музыкі на падрыхтоўчае аддзяленне. Напачатку я падумаў, што гэта нешта недасяжнае, але потым, падрыхтаваўшыся і паверыўшы ў свае сілы, паспяхова здаў экзамены і быў залічаны ў акадэмію ў клас опернага саліста, заслужанага артыста Беларусі Міхаіла Жылюка. Напярэдадні мяне чакалі ўступныя экзамены на асноўны курс. За два гады вучобы ў акадэміі музыкі мне неабходна было прайсці вакальную школу, самастойна авалодаць песенным жанрам; тэатральным, сцэнічным майстэрствам; асвоіць вялікі рэпертуар, і ўсё гэта — прафесійна, на высокім узроўні. Задача была не з лёгкіх. Але мне з маім выдатным педагогам Міхаілам Жылюком удалося даказаць, што цярпенне і стараннасць, нязгаснае жаданне дасягнуць мэты заўсёды прыводзяць да чаканага станоўчага выніку. І ў 2001 годзе я без праблем паступіў на асноўны курс Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, якую закончыў па спецыяльнасці "сольныя спевы" ў 2006 годзе, па класе Міхаіла Жылюка.

**— Падчас вучобы ў акадэміі музыкі ці выступалі вы ў канцэртах?**

— Вёў актыўную канцэртную дзейнасць, быў запатрабаваны вядучымі канцэртнымі арганізацыямі Беларусі. Ладзіў супрацоўніцтва з Беларускай дзяржаўнай філармоніяй, Белканцэртам, Беларускім саюзам музычных дзеячаў. Разам з тым, я набываў багаты рэпертуар, уключаў разнажанравую музыку заходніх і рускіх кампазітараў, пачынаючы ад класікі да джаза. Гастраляваў з сольнымі праграмамі па краінах бліжняга і далёкага замежжа: Расія, Украіна, ФРГ, Галандыя, Данія, Швецыя, Нарвегія ды інш. Удзельнічаў у міжнародных конкурсах і фестывалях. Часам паспяхова: напрыклад, стаў лаўрэатам VIII Усерасійскага адкрытага конкурсу маладых выканаўцаў рускага раманса "Романсиада" (Масква, 2004 г.).

**— Ваша цяперашняя праца звязана з канцэртным жыццём?**

— З лістапада 2004 года я з'яўляюся салістам Беларускай дзяржаўнай філармоніі, летась стаў салістам Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя Іосіфа Жыновіча. Неаднаразова арганізоўваў паспяховыя сольныя канцэрты: "Дуэты з опер і аперэт", "Ад рамансаў да шлягераў 60 — 70-х. З любоўю пра каханне", "Восеньскі карнавал" з удзелам групы "Рэтра-хіт". У маіх канцэртах актыўна ўдзельнічае, робіць аранжыроўкі і акампануе на фартэпіяна член Беларускага саюза кампазітараў Валянціна Серых, якая і з'явілася музычным кіраўніком групы "Рэтра-хіт", а таксама — маім партнёрам па эстрадным напрамку творчасці...

**— Чым займаецеся апрача працы?**

— Бяру ўдзел у дабрачынных акцыях, якія арганізоўваюцца ў падтрымку дзяцей-сірот, шматдзетных сем'яў, у бальніцах і рэабілітацыйных цэнтрах; у шматлікіх канцэртах з нагоды розных прафесійных свят — Дня Перамогі, Дня юрыста, Дня будаўніка, медыцынскага работніка, настаўніка, а таксама на Свята горада Мінска. Ужо шэраг гадоў з'яўляюся ўдзельнікам дабрачыннай акцыі "Чарнобыльскі шлях — дарога жыцця".

# Майстар афорту — у Віцебску



Ірына КАРЭЛІНА,
фота Святланы Берасцень

**Віцебскую публіку, распешчаную "Славянскім базарам", здзівіць даволі складана. Урэшце, горад, у якім жылі і працавалі Юдаль Пэн, Марк Шагал, Казімір Малевіч, сам па сабе ўсталёўвае высокую планку для мастакоў, якія арганізоўваюць тут свае выстаўкі. Але госць з Гродна — знаны творца Юрый Якавенка выклікаў у віцяблян шчырую цікавасць.**

Увагу прыцягвае ўжо тое, што Юрый працуе ў даволі рэдкай сёння ў нас тэхніцы афорту. Малюнак, які літаральна выдрапваецца на металічнай пласціне, з'яўляецца сапраўды ўнікальным — яго не паўторыць нават сам аўтар. Сярод шматлікіх міжнародных узнагарод Юрый Якавенка мае аўтапартрэт Рэмбранта, аддрукаваны з дошкі вялікага майстра (дарэчы, такім прызам ганараваныя нямногія мастакі ў свеце).

Каб паглядзець усе работы, прадстаўленыя на віцебскай выстаўцы, мне спатрэбілася не адна гадзіна. Кожны твор — гэта цэлая сістэма сімвалаў, вобразаў і сэнсаў. Серыю "Alfabeto", дзе ў гравюрах "схаваныя" літары лацінскага алфавіту, некаторыя ўважлівыя наведвальнікі разглядалі нават з лупай. У выявах, аб'яднаных пад назвамі "Тараскоп", "Стыхіі", паказаны, здавалася б, звычайныя рэчы, але Юрый робіць іх фантастычнымі, загадкавымі, пазазямнымі.

Амаль усе яго работы выкананыя ў сюррэалістычнай манеры; нацюрморт пераплятаецца з жанравымі элементамі партрэта і пейзажа… Твары на гравюрах здаюцца жывымі, але яны зусім не падобныя да твараў сучасных людзей. Персанажы твораў Ю. Якавенкі — моцныя, прыцягальныя асобы. Асабліва мне запомніліся чамусьці выявы чатырох прадстаўнікоў вайсковай пасады — кандацьер (італ.). Кожны ўражвае велічным абліччам і яркім характарам. Дарэчы, італьянскія матывы ў творчасці Юрыя Якавенкі (пра якога "ЛіМ" не так даўно пісаў. — **Рэд.**), як вядома, абумоўленыя яго сталым супрацоўніцтвам з італьянцамі — майстрамі мастацкага друкавання.

Персанальныя выстаўкі беларускага графіка праходзілі ў многіх краінах: Бельгіі, Іспаніі, Літве, Нідэрландах, Польшчы, Швецыі, на Кіпры. І вось яго адкрылі для сябе віцебскія гледачы.

***На здымку: афорт Юрыя Якавенкі з серыі "Alfabeto".***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

У Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пры садзейнічанні Беларускага саюза музычных дзеячаў прайшоў II Рэспубліканскі семінар-практыкум па харавых спевах. Ён сабраў беларускіх хормайстраў — кіраўнікоў аматарскіх, дзіцячых, юнацкіх калектываў, выкладчыкаў і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў сферы культуры і мастацтва. Яны займаліся развучваннем твораў з хорам, а вынік працы затым быў прадстаўлены ў канцэрце. Упершыню такое мерапрыемства адбылося ў Мінску тры гады таму, і кіраваў ім легендарны расійскі маэстра Уладзімір Мінін. Сёлета заняткі ладзіліся пад кіраўніцтвам яго знанага спадзвіжніка — прафесара Уладзіміра Семенюка, дырыжора і хормайстра Маскоўскага камернага хору.

Флейту фірмы "Maramatsu" набыў народны артыст СССР, кіраўнік знаных "Віртуозаў Масквы" Уладзімір Співакоў для студэнткі 2 курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Юліі Шчасновіч. Імя гэтай выдатнай флейтысткі, лаўрэата прэстыжных міжнародных конкурсаў, стыпендыята спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі ўжо знаёмае чытачам "ЛіМа". Як паведамілі нам у акадэміі, У. Співакоў пачуў ігру Юліі пры канцы мінулага года падчас свайго візіту ў Мінск: іх сустрэча адбылася па ініцыятыве прафесара БДАМ Барыса Нічкова. Наш госць высока ацаніў узровень майстэрства Юліі, запрасіў яе да ўдзелу ў супольных творчых праектах і прыняў рашэнне наконт набыцця для таленавітай беларускай флейтысткі прэстыжнага інструмента і канцэртнага строя. Пры садзейнічанні Пасольства нашай краіны ў Расійскай Федэрацыі і Міністэрства культуры Беларусі падарунак трапіў па адрасе, і нядаўна ў Канцэртнай зале БДАМ адбылася прэзентацыя флейты — сапраўды чарадзейнай, дзякуючы ігры Ю.Шчасновіч.

Да Міжнароднага дня тэатра прымяркоўвалася традыцыйнае ўручэнне найвышэйшых прафесійных узнагарод Беларускага саюза тэатральных дзеячаў. Прэстыжную "Крыштальную Паўлінку" сёлета атрымала артыстка Беларускага рэспубліканскага ТЮГа Вера Кавалерава. "Крыштальным анёлам" ганараваны акцёр Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Уладзімір Грамовіч, "Крыштальнай зоркай" — артыст Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" і Тэатра-студыі кінаакцёра Пётр Юрчанкоў-малодшы. Прызам "Крыштальная кветка" (за самы яркі дэбют) адзначаны акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Руслан Чарнецкі. А дырэктар калектыву горкаўцаў Эдуард Герасімовіч стаў першым уладальнікам прыза ў новай намінацыі "Натхненне", заснаваным для ўзнагароджвання спонсараў, мецэнатаў, адміністрацыі тэатраў.



***На здымку: заслужаная артыстка Беларусі Вера Кавалерава — Пэра ў спектаклі "Крыху пяшчоты".***

**Міжнародны маладзёжны форум, задуманы ды здзейснены ў Магілёве пад назвай M.@rt.кантакт, сёлета адбыўся шосты раз.**

**Тэатр усё яшчэ здзіўляе: спалучэннем і ўзаемадзеяннем руху, колеру і гуку, вадкасцей і рэчываў... Часам вялікая сцэна прыдаецца якраз для аднаго акцёра (у монаспектаклі), а колькім выканаўцам, падтрыманым аркестрам і балетам, цяжка засяродзіць на сабе ўвагуаднае залы... Здараецца, што сонечная фестывальная раніца афарбавана ў чорнае: у так званым "чорным кабінеце" сцэны вядуць рэй вядзьмаркі ў чорных строях; а фестывальны вечар прэзентуе лагодных бялюткіх казачнікаў... Фестывальныя кантрасты Магілёва відавочныя. Крытыкі слушна зважалі на адыход тэатральнай класікі, мадэрнізму і постмадэрнізму. Форум спрыяў досведу ў тэатральнай магіі: мяшаем-мяшаем уяўнае варыва, кідаем-кідаем у сцэнічны кацёл, выяўляем- узважваем складнікі разам з гледачамі...**



# M.@rt.КАНТРАСТы

Жана ЛАШКЕВІЧ,
фота Яўгеніі Алефірэнкі

## Кантраст першы: казачны

Мінскі рэжысёр Яўген Карняг ствараў сваё відовішча пяць фестывальных дзён паза праграмаю — заяўку на спектакль "Інтэрв'ю з вядзьмаркамі" паводле найвядомых казак братоў Грым.

Тры паненкі мадэльнай знешнасці (а які вытанчаны грым!) пачынаюць прэс-канферэнцыю: імпэтна, тэмпераментна, варожа. Паўгадзіны яны перахопліваюць адна ў адной мікрафоны, замінаюць, пагражаюць, зневажаюць і вокамгненна робяцца паплечніцамі ў змове дзвюх супраць адной; натуральна, кожнай карціць выказацца першаю. Ролям і дзеянню яшчэ бракуе развіцця, — іх трэба вышукваць у казках і прыдумваць разам з тэкстам, але актрысы ўдала імправізуюць, выдаючы з сябе адначасова персанажаў Шэкспіра і дзіцячых жудзікаў, міфічных уладарак лёсу і зорак шоу-бізнесу, нядобрых чараўніц з мультфільмаў і вядомых жанчынпалітыкаў... Спроба Яўгена Карняга — не так рэжысёрская, як аўтарская заява на бліжэйшую тэатральную будучыню. Ён увасабляе ідэю, і яна можа зрабіцца падставаю для дыхтоўнага відовішча. А можа і не зрабіцца. А можа і зусім не спраўдзіцца. У тэатры ўсяляк бывае. Ці рызыкне Магілёўскі абласны тэатр, ці паспрыяе таму, каб рэжысёр выказаўся нароўні з ягонымі персанажамі?

Звыклая практыка рэпертуарнага тэатра не заахвочвае рэжысёрскую магію. Трэба адмыслова загартавацца, каб не зважаць на штодзённыя нястачы і дамагчыся свайго, — мастацкай вартасці сцэнічнага твора. На фестывальных сустрэчах наракалі, што пачаткоўцу ад рэжысуры няма дзе кшталціцца; замежжа (напрыклад, Масква) не можа прыняць усіх ахвотных; дэбютную пастаноўку ў сталічным тэатры дастаць немагчыма... Колькі ў гэтым шчырае праўды? Валерый Анісенка, мастацкі кіраўнік і дырэктар Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, цярпліва ўдакладняў: ня-ма дзе і немагчыма... там, дзе хочуць, жадаюць і прагнуць маладыя рэжысёры — у нацыянальных акадэмічных тэатрах? Не падыходзіць РТБД? Новы драматычны? Тэатр юнага гледача?..

Як навучальны дапаможнік па стварэнні гэтак званага аўтарскага спектакля, дзе "нялішняе і невыпадковае" на сцэне робіцца абавязковым дасціпным складнічкам твора, збіраецца, зліваецца і ўтварае адзінае і суцэльнае, можна скарыстоўваць спектакль Ніны Дзімітравай і Васіля Васілева-Зуекі "Тата заўжды мае рацыю" паводле Андэрсена (назву варта было б перакласці паводле самога казачніка — "Што муж ні зробіць, тое і добра"). Казка Андэрсена перачытана сучасна і вынаходліва, але з вялікай павагай да першакрыніцы...

З велізарнымі санкамі, поўнымі дасціпнага рэквізіту, з'яўляюцца выканаўцы-казачнікі, каб распавесці пра дзівакаватага Мужа і Жонку, заўжды гатовую падтрымаць і ўхваліць свайго любага. Усё на сцэне афарбавана ў адзін — белы — колер. Усё мае адну — пухнатую і мяккую — фактуру. Сцэнічная краіна Данія, пра якую вядуць гаворку акцёры, засыпана снегам траха не пад самыя дахі. Снег — бялюткія скруткі фліса (новы матэрыял — новыя магчымасці!), а калі зямлю сцінае мароз, з санак з'яўляюцца стэплеры і раскручаны фліс літаральна скабіцца да сцэнічнае падлогі. Лыжныя кіі ўтвараюць абрысы пахілае хаціны, робіцца складнікамі каня, каровы і авечкі, якіх Муж, апынуўшыся на кірмашы, будзе мяняць адно на другое, а кошык — ажно "шведскім салаўём", які ў выніку робіцца курыцай. Старая коўдра на дзірках ператвараецца ў прасціралда для кірмашовага фатографа, а фотаапарат — у ліхтар. Ён прапануецца ў якасці бонусу да курыцы, якую Муж выменьвае за авечку...



Тэатр з Сафіі спалучае гэтак званы "жывы план", прадметы, аб'екты і лялькі, дзе ролю атрымлівае кожная драбяза і дзе няма ніводнае драбязы: усё ўзбуйняецца і гуляе, — ад шыкоўных мужавых вусоў да плеўкі на малацэ і пенкі на піве. Мноства сваіх персанажаў акцёры ўвасабляюць, дадаючы да ўбрання пэўныя дэталі і аксесуары (напрыклад, мяняючы галаўныя ўборы). Аб'ект на сцэне можа ператварыцца ў прадмет (гульня з шынком, які робіцца сасудам для піва і перакідваецца ў вясковую хаціну), прадмет — у ляльку: з торбы з'яўляюцца карова і авечка, а варта авечку ўскінуць на плячук, і яна адыграе ролю дуды (гульня з вонкавым падабенствам і ўжываннем рэчаў).

Адметная казачная кульмінацыя адмыслова пражываецца Жонкай — Нінай Дзімітравай, якая ацэньвае паводзіны Мужа цалкам зразумела: ну які ідыёт змяняе каня на мех гнілых яблыкаў?! Але, раўнуючыся па персанажах Андэрсена, актрыса разыгрывае эцюды на пераадоленне — здзіўляецца, крыўдуе, лютуе... і ўголас ўхваляе дзеянні персанажа, якога іграе партнёр! Праўдзівы казачны кантраст завяршае дзеянне: старое жыццёвае павучанне шанаваць і паважаць адно аднаго ўспрымаецца адкрыццём.

*На здымках: сцэны са спектакляў "Інтэрв'ю з вядзьмаркамі" і "Тата заўжды мае рацыю".*

# Які ж тэатр без касцюмаў!

Анатоль МАЗГОЎ

**Да Міжнароднага дня тэатра прымеркавана выстаўка "Тэатр! Тэатр? Тэатр…", якая адкрылася ў Барысаве ў мастацкай галерэі "З'ява". Аўтарамі экспазіцыі сталі Людміла Гудзіліна (тэатральныя касцюмы), Валерый Пчолка (фота) і Таццяна Сяргіенка (біжутэрыя і фрывалітэ).**

Яркасць фарбаў, шматстайнасць стыляў, тэхнік, матэрыялаў прадстаўленых тут тэатральных касцюмаў і аксесуараў уражвае. Многія з іх, паводле слоў касцюмера Людмілы Гудзілінай, выкананыя з самых звычайных матэрыялаў: старых спадніц, фіранак, рэштках тканіны, напрыклад. Пры гэтым майстрыха валодае ўнікальнай здольнасцю ператварэння рэчаў, якія пасля апрацоўкі набываюць цалкам гожы тэатральны выгляд.

"Асаблівасць маёй працы ў тым, што я абсалютна не ўмею кроіць, — пажартавала на вернісажы Людміла Гудзіліна. — Я толькі адразаю там, дзе лішняе, і прышываю туды, дзе бракуе". Яна нарадзілася ў пасляваенным Барысаве. У 16 гадоў стала актрысай Барысаўскага народнага тэатра. Скончыла Мінскі педагагічны інстытут як лагапед вышэйшай катэгорыі. Іграла ў тэатры і пачала ствараць тэатральныя касцюмы, спачатку для сябе, затым для іншых акцёраў, усяго — больш як 150 адзінак! Самыя вялікія калекцыі —больш як 30 касцюмаў — былі зробленыя для спектакляў тэатра "Відарыс": "Прышэсце" паводле рамана У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" і "У Вероне карнавал" паводле п'есы Р. Горына "Чума на абедзве вашы хаты".

Увагу наведвальнікаў выстаўкі прыцягваюць каляровыя і чорна-белыя фотаздымкі Валерыя Пчолкі, які экспануе хроніку тэатральнага і "кіношнага" жыцця горада Барысава. Аўтар эксклюзіўных здымкаў нарадзіўся ў 1963 г. на Мядзельшчыне, а з 1985 года жыве ў Барысаве. Па прафесіі ён цясляр, але мае шмат захапленняў. Адно з іх — мастацкая фатаграфія. Яго лепшыя здымкі можна ўбачыць на розных выстаўках.

Элегантны дадатак да экспазіцыі — каля 70 эксклюзіўных работ Таццяны Сяргіенкі: біжутэрыя і фрывалітэ. Ёсць тут калье, падвескі, бранзалеты, завушніцы і брошкі. Упрыгожванні плятуцца з тонкіх трывалых нітак і дэкаруюцца пацеркамі. Таццяна Міхайлаўна таксама мае дачыненне да тэатра: яна — маці колішняга рэжысёра тэатра-студыі "Трыумф" Барысаўскага гарадскога палаца культуры Сяргея Сяргіенкі і свякроў цяперашняга кіраўніка студыі Кацярыны Янушэўскай.

Таццяна Сяргіенка мае адукацыю тэхніка-тэхнолага па апрацоўцы металаў, але ўжо з маладосці захаплялася дэкаратыўным мастацтвам: гафтам, габеленамі, вязаннем, швівам. Тэхнікай фрывалітэ займаецца з 1994 г., а з 2003-га працуе ў тэхніцы анкарс (дэкарыраванае фрывалітэ). У 2009 г. яна стала дыпламантам абласнога фестывалю нацыянальных культур у Маладзечне, а праз год — лаўрэатам Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур у Гродне.

Выстаўка "Тэатр! Тэатр? Тэатр…" працуе да 10 красавіка, прычым упадабаныя ўзоры біжутэрыі і фрывалітэ ахвотнікі могуць набыць.

## Слова краязнаўцы



**Алена Болван са Свіслаччыны разважае пра ролю Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце ў развіцці айчыннай рэгіяналістыкі:**

— 1920-я гады — перыяд плённага вывучэння краязнаўства. І звязаны гэты ўздым з адкрытым у канцы 1923 года Цэнтральным Бюро Краязнаўства, якое дзейнічала на правах пастаяннай камісіі пры Інстытуце беларускай культуры і стала асновай для фарміравання і далейшага развіцця навукі. З яго ўсё і пачыналася.

Мэта ЦБК заключалася ў тым, каб забяспечыць беларускую навуку неабходным матэрыялам па краязнаўстве не толькі ў вузкім сэнсе, але і ў шырокім. Прымаліся матэрыялы па гісторыі, заалогіі, батаніцы, геалогіі; ствараўся слоўнік жывой беларускай мовы, запісваліся народныя песні, казкі, байкі, замовы; адбывалася рэгістрацыя помнікаў старасветчыны і іх ахова, ствараліся археалагічныя карты, збіраліся экспанаты для музеяў. Больш таго, працу Цэнтральнага Бюро Краязнаўства нельга абмежаваць толькі гэтым спісам.

Для лепшага здзяйснення мэт і задач на тэрыторыі тагачаснай Беларусі была створана цэлая сетка краязнаўчых арганізацый, куды ўваходзіла мясцовае настаўніцтва. Актыўна да ўдзелу ў гэтым руху прыцягваліся і вучні. Мэтай апошняга, як лічылі ў ЦБК, было пашырэнне сярод вучняў школ беларускай мовы, паколькі праца Бюро, ды і ўвогуле ўсяго Інстытута беларускай культуры, вялася, у большасці, на роднай мове.

Краязнаўчая ідэя сапраўды сталася вельмі папулярнай і хутка пачала набіраць сілу. Пра гэта сведчаць Усебеларускія краязнаўчыя з’езды, на якіх прысутнічалі таксама і правінцыяльныя краязнаўцы. У 1925 годзе ўбачыў свет і перыядычны друк ЦБК — часопіс “Наш край”. У ім свае працы публікавалі В. Ластоўскі, У. Ігнатоўскі, І. Каранеўскі, Я. Віткоўскі і іншыя супрацоўнікі Інбелкульта.

Але ў хуткім часе “вальнадумству”, свабодзе кіравання прыйшоў канец: Інстытут беларускай культуры, а таксама і Цэнтральнае Бюро Краязнаўства былі пастаўлены пад пільны нагляд Кампартыі. Асабліва гэта было відаць па публікацыях “Нашага краю”, дзе адной з галоўных тэм стала тэма рэвалюцыі. Ды і назва стала адпавядаць таму часу — “Савецкая краіна”.

## Да апошняга ўздыху — даследчык…

Пайшоў з жыцця вядомы краязнавец і даследчык Веткаўшчыны Уладзімір Цэйкін. Так атрымалася, што гутарка з Уладзімірам Уладзіміравічам у “ЛіМе” за 18 сакавіка 2011 г. стала яго апошнім словам.

Шчыры, сумленны чалавек, выдатны знаўца свайго краю пакінуў пасля сябе шэраг кніг пра вёскі Веткаўшчыны. Яны складаюць гонар не толькі аўтару, а і ўсяму айчыннаму краязнаўству. Да апошняга ўздыху ён не выпускаў з рук алоўка, імкнуўся паспець дапісаць кнігу пра родную вёску Радуга. Але цяжкая хвароба апярэдзіла, 22 сакавіка яго не стала...

Светлая памяць пра Уладзіміра Цэйкіна застанецца ў сэрцах не толькі яго родных і блізкіх, а і ўсіх тых, хто ведаў гэтага незвычайнага, адоранага любоўю да Айчыны чалавека.

**Лімаўцы**

## Музейны ўнікат

**Надмагільны помнік — досыць рэдкі прадмет у калекцыях беларускіх музеяў. У асноўным гэта іх фрагменты, знойдзеныя падчас археалагічных раскопак. Да прыкладу, Гродзенскае надмагілле — частка помніка з выявай дзіцяці, што была знойдзена пры раскопках Мірскага замка і трапіла ў Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей. Таму знакамітае надмагілле Сапегаў з Гальшан, якое сёння захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, — сапраўдны рарытэт. Больш таго, гісторыя гэтага прадмета напоўнена драматычнымі падзеямі, некаторыя пытанні яго стварэння і першапачатковага знешняга выгляду застаюцца адкрытымі і сёння.**

# Надмагілле без містыкі

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота Кастуся Дробава**

Надмагілле Паўла Стэфана Сапегі, падканцлера ВКЛ, стрыечнага брата Льва Сапегі, гаспадара Гальшан, і трох яго жонак: Рэгіны з Дубавіцкіх, Альжбеты Веселіні і Катажыны з Гаслаўскіх, трапіла ў Музей старажытнабеларускай культуры з парафіяльнага касцёла святых Іаана Хрысціцеля і Іаана Евангеліста ў Гальшанах у лістападзе 1978 г. Упершыню помнік згадвае Мацей Казімір Сарбеўскі ў 1625 г., затым, у 1635 г., — Марк Карона, айцец-францысканец, у прамове на пахаванне Паўла Стэфана Сапегі.

Гісторыя надмагілля цесным чынам звязана з гісторыяй касцёла. Ён быў узведзены па фундацыі гаспадара Гальшан у 1616 г. Менавіта ў гэтым храме Павел Стэфан Сапега і вырашыў пахаваць сваю першую жонку. Труна з яе целам была змешчана ў склепе пад падлогай, а ў самім касцёле, у капліцы, пастаўлена надмагілле — фігура жанчыны, апранутай па модзе часоў Рэнесансу, якая спіць з малітоўнікам у руках. Пазней тут жа былі пахаваны яшчэ дзве жонкі Паўла Стэфана. Усяго ж Сапега быў жанаты чатыры разы. Чацвёртай жонкай стала Сафія Даніловіч, яна перажыла мужа і пазней заказала фігуру Паўла Стэфана для помніка. Так апошняя кропка ў стварэнні Гальшанскага надмагілля была пастаўлена ў 1635 (калі памёр Павел Стэфан).

“Па сённяшні дзень адкрытым застаецца пытанне, які выгляд яно першапачаткова мела, — расказвае дырэктар Музея старажытнабеларускай культуры, кандыдат мастацтвазнаўства Барыс Лазука. — Зыходзячы з той традыцыі, што ўжо склалася ў першай трэці XVII ст. у мемарыяльнай пластыцы Беларусі, можна меркаваць, што надмагілле было ярусным, прысценным: уверсе знаходзілася пліта, на якой рэльефам была паказана фігура Паўла Стэфана, а ўнізе гарызантальна былі размешчаны тры пліты з выявамі жонак, выкананыя раней. У XVIII ст. Гальшанскі касцёл быў адрамантаваны: яго сцены разабраны да падмурка і фактычна ўзведзены нанава. Разабралі і капліцу. Пасля рамонту надмагіллю не вярнулі ранейшы выгляд — пліты былі пакладзены ў рад гарызантальна з невялікім нахілам. І ў такім выглядзе яно дайшло да XX ст., што пацвярджаюць фотаздымкі канца XIX — пачатку XX ст.”



У савецкія часы касцёл зачыняюць, і надмагілле пачынаюць разбіваць вандалы. Моцна былі пашкоджаны яго некаторыя дэталі. Супрацоўнікі Музея старажытнабеларускай культуры, якія ў той час многа ездзілі па Беларусі, не маглі назіраць за разбурэннем і прынялі рашэнне прывезці надмагілле ў музей.

“Але гэта не апошняя кропка гісторыі экспаната, — адзначае Барыс Андрэевіч. — Тры гады таму падчас святкавання Дня музеяў да нас завіталі мінскія мастакі, сярод якіх быў Віктар Маркавец. Ва ўрачыстых абставінах ён ад імя беларускіх мастакоў уручыў нам падабраныя імі ў часы атэістычнай барацьбы кавалачкі надмагілля. Натуральна, значная частка адбітых дэталяў страчана. Але па першых накідах твар адной з жонак мы можам поўнасцю аднавіць. Радуе, што да помніка будуць дададзены не новыя часткі, а той самы мармур XVII ст.”.

Але яшчэ не ўсе сакрэты надмагілля з Гальшан раскрыты. Так, адкрытым застаецца пытанне пра месца яго стварэння. Верагодней за ўсё, першыя фігуры (адна ці ўсе тры) маглі быць выкананы ў адной з майстэрань Гданьска. Польскія гісторыкі нават называюць імя гаспадара такой майстэрні — скульптара ван дэн Блоке. Але такія высновы могуць быць аспрэчаны, бо грунтуюцца яны толькі на параўнальным аналізе. Апошняя фігура, якая па стылістыцы крыху адрозніваецца ад трох папярэдніх, магла быць выканана беларускімі ці віленскімі скульптарамі.

Застаецца адкрытым і пытанне ідэнтыфікацыі асоб і выяў у помніку. Лагічна было б меркаваць, што ў ярусным надмагіллі ў цэнтры, пад фігурай Паўла Стэфана Сапегі была змешчана выява першай яго жонкі — Рэгіны Халецкай (Дубавіцкай), з левага боку — Альжбеты Веселіні, з правага — Катажыны Гаслаўскай. Менавіта ў такой паслядоўнасці яны паўстаюць на фотаздымку 1930 г., а ў цяперашні час — у Музеі старажытнабеларускай культуры.

Варта заўважыць, што скульптурныя надмагіллі на тэрыторыі ВКЛ упершыню з’яўляюцца ў XVI ст., у часы праўлення Стэфана Баторыя, калі ўзмацніліся сувязі з Італіяй. Ужо ў XVII ст. тут ствараліся розныя надмагільныя помнікі: прысценныя бюсты, выявы з укленчанымі фігурамі, ярусныя надмагіллі (што аказаліся найбольш тыповымі для шляхецкай культуры ВКЛ). Адметна і тое, што надмагілле Сапегаў не было сапраўдным помнікам. Паколькі пад скульптурамі не было самога пахавання (целы знаходзіліся ўнізе, у склепе), фактычна гэта былі мемарыяльныя скульптуры. Традыцыя аддзялення месца пахавання ад мемарыяльнага знака прысутнічае і сёння ў выглядзе помнікаў і мемарыяльных дошак на будынках.

***На здымку: надмагілле Сапегаў з Гальшан.***

# Акадэмік радзімазнаўства

**Максім ЛАДЫМЕРАЎ,**
**Фота Марыны Весялухі**

**Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч, якому днямі споўнілася 80 гадоў, даўно і трывала засведчыў сваё адметнае месца ў беларускай культуры і літаратуры. Працуючы многія дзесяцігодзі ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы, ён выйшаў за межы літаратуразнаўства, гісторыі беларускай літаратуры, у чым таксам сябе праявіў як грунтоўны даследчык.**

Грамадская, нацыянальная руплівасць Аляксея Пяткевіча вывела вучонага на ніву літаратурнага і гістарычнага краязнаўства, шырокі культуралагічны прастор. Яшчэ ў 1968 годзе даследчык выступіў у зборніку “Наднёманскія былі” з артыкулам “Сцежкамі роднага краю”. Два сэнсы гэтага цёплага слова “сцежкі” хавае тлумачальны слоўнік. Вузкая пратаптаная людзьмі або жывёлай дарожка. І — кірунак, шлях дзейнасці, развіццё каго-небудзь, чаго-небудзь. Назваўшы так па волі абранай для напісання тэмы (а мо па іншай, болей высокай волі) тую даўнюю публікацыю, Аляксей Міхайлавіч пазначыў сваю дарогу на доўгія гады. Хто б і якім аспектам у вывучэнні культуры, літаратуры, мастацтва Гарадзеншчыны, увогуле гарадзенскай рэгіяналістыкі ні займаўся, без кніг А. Пяткевіча “Літаратурная Гродзеншчына: Мясціны. Людзі. Кнігі”, “Пісьменнікі Прынёманскага краю”, “Маршруты кніжнага слова: З гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне”, “Людзі культуры з Гродзеншчыны” не абысціся. Асабліва ўражлівым прыкладам краязнаўчай настойлівасці падаецца даведнік “Людзі культуры з Гродзеншчыны”. У ім Аляксею Міхайлавічу ўдалося раскрыць біяграфіі каля 600 ураджэнцаў рэгіёна — мастакоў, пісьменнікаў, архітэктараў, вучоных-гуманітарыяў… І што адметна, пра многіх персанажаў гэтай кнігі “маўчаць” самыя сур’ёзныя энцыклапедыі.



Так, краязнаўства забрала час у вучонага-літаратуразнаўцы. Яшчэ ў 1963 годзе Аляксей Міхайлавіч абараніў дысертацыю. У 1981 годзе пабачыла свет яго манаграфія “Сюжэт. Кампазіцыя. Характар: аб прозе Кузьмы Чорнага”. Артыкулы гродзенскага вучонага — у складзе “Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры” (Мінск, 1960), “Гісторыі беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя” (Мінск, 1981). І ўсё ж зробленае на сцежках, на шырокім шляху краязнаўчай увагі да Гродзеншчыны не меней, а мо нават і шмат болей узвышае асобу вучонага як даследчыка са сваімі здзяйсненнямі і важкімі ўплывамі на развіццё не толькі асветніцкай думкі, але і ў патрыятычным выхаванні ўсіх, хто адкрывае для сябе старажытны край, хто зважае на плён працы, здабыткі папярэднікаў. А сцежка Аляксея Міхайлавіча яшчэ доўжыцца, набывае новую шырыню, вядзе да новых прастораў.

# А сэрца помніць і баліць…

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара

**Напярэдадні 70-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны Беларускі фонд міру і Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь абвясцілі міжнародны праект “Павышэнне статусу выратаваных жыхароў спаленых беларускіх вёсак”. Ён разлічаны на два гады і ладзіцца ў межах праграмы “Месца сустрэчы — дыялог”. Ініцыятар акцыі — германскі фонд “Памяць, адказнасць і будучыня”, арганізатарам праграмы ў Беларусі стала міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Узаемаразуменне”. Пра мэты праекта, яго гуманітарную аснову і навуковыя даследаванні, што будуць праведзены ў яго межах, — наша гутарка з галоўным архівістам Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Вячаславам Селяменевым і каардынатарам праекта Наталляй Кірылавай.**

**— Наталля Віктараўна, у чым асноўная мэта гэтага праекта?**

**Наталля Кірылава**: Мы ставім перад сабой задачу перш за ўсё звярнуць увагу на людзей — ахвяр нацызму, якія маюць вельмі цяжкі жыццёвы вопыт. Яны — жыхары спаленых беларускіх вёсак, якія цудам выратаваліся, на іх вачах былі здзейснены жахлівыя злачынствы. Такіх жыхароў у Беларусі было калісьці многа, але час ідзе, ужо прайшло амаль 70 год, як пачалася Вялікая Айчынная вайна, яны сыходзяць з жыцця. Засталася невялікая колькасць людзей, якія ў той жахлівы час былі дзецьмі.

У межах праекта плануецца правядзенне цэлага шэрагу мерапрыемстваў. Гэта “сустрэчы пакаленняў”, канферэнцыі, “круглыя сталы”, выстаўкі, наведванне памятных месцаў, такіх як Дальва, Хатынь, Курган Славы і іншыя. Паралельна ажыццяўляецца і навуковая работа, якую вядуць супрацоўнікі Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

**Вячаслаў Селяменеў**: Хачу падкрэсліць яшчэ адзін момант гэтага праекта. Тут гаворка не ідзе пра выплату нейкіх грашовых сродкаў пэўнай катэгорыі насельніцтва, гаворка ідзе пра прыцягненне ўвагі да гэтых людзей. Яны ў час вайны перажылі страшную трагедыю, але на іх нікто і ніколі не звяртаў увагі. Першай спробай гаварыць на гэтую тэму стала знакамітая кніга Янкі Брыля, Алеся Адамовіча і Уладзіміра Калесніка “Я з вогненнай вёскі”. Працягам стала акцыя “Нашчадкі вогненных вёсак”, што ладзілася сумесна з газетай “Звязда”, і аднайменная кніга Таццяны Падаляк.

**— Ці можна сцвярджаць, што новы праект — своеасаблівы працяг працы ў межах акцыі “Нашчадкі вогненных вёсак”?**

**Наталля Кірылава:** Мэтай акцыі “Нашчадкі вогненных вёсак” было сабраць людзей у Хатыні, што мы і зрабілі двойчы. Спачатку былі сабраны сведкі спаленых вёсак з Мінскай вобласці, потым да нас далучыліся жыхары іншых абласцей. Мы іх сустрэлі ў Хатыні, правялі экскурсію, а потым намі, супрацоўнікамі мемарыяльнага комплексу “Хатынь” (я ў той час працавала яго дырэктарам), быў створаны стэнд у фотадакументальнай экспазіцыі, на якім былі прадстаўлены здымкі і некаторыя эпізоды акцыі.Таццяна Падаляк, у той час карэспандэнт газеты “Звязда”, сустрэлася з кожным з гэтых людзей і ў сваёй кнізе распавяла пра трагічныя лёсы герояў нашай акцыі.

Што да новага праекта, ён намнога больш шырокі, ды і задачы, што стаяць перад намі, намнога больш складаныя. І чым больш праходзіць часу з пачатку праекта, тым больш пашыраюцца яго межы. Гэты праект гуманітарны, ён павінен “вырваць” гэтых людзей з ізаляванасці. Мы хочам іх сабраць, запісаць успаміны, бо з часам не толькі забываюцца некаторыя эпізоды вайны, але і робяцца спробы перапісаць гісторыю. А паколькі ў Беларусі амаль кожная сям’я пакутавала ў час вайны, рэабілітацыя фашызму, замоўчванне сапраўдных ахвяр адгукаецца ў сэрцах людзей.

У межах праекта будзе не толькі створана інфармацыйная база па спаленых вёсках і іх жыхарах, але і запісаны іх успаміны. Акрамя таго, калі выявім усіх людзей, якім патрэбна дапамога, перададзім іх спісы мясцовым уладам, каб кіраўнікі райвыканкамаў, сельсаветаў звярталі асаблівую ўвагу на іх здароўе і бытавыя праблемы. Праект вельмі патрэбны гэтым людзям, але ён патрэбны і моладзі, бо мае вялікае выхаваўчае значэнне.

**— Акрамя гуманітарнага значэння праект будзе мець і навуковую частку…**

**Вячаслаў Селяменеў**: Тэма спаленых беларускіх вёсак была ў цэнтры ўвагі, калі ствараўся Дзяржаўны мемарыяльны комплекс “Хатынь”. У той час была праведзена вялікая работа па выяўленні такіх вёсак, вынікам якой сталі апублікаваныя ў 1984 годзе спісы спаленых вёсак з жыхарамі. На той час яны ўключалі больш як 5 тысяч вёсак. Але, як паказваюць сёння новыя даследаванні дакументаў, спісы няпоўныя. Таму можна сказаць, што гуманітарны праект стаў штуршком і для навуковых пошукаў. І ўжо ёсць іх вынікі: мы падрыхтавалі зборнік дакументаў “Трагедыя беларускіх вёсак 1941 — 1944 гг.”, які пабачыць свет праз некалькі месяцаў. У яго ўвайшлі дакументы, што распавядаюць пра знішчэнне беларускіх вёсак у час вайны. Ён стане новым крокам у вывучэнні гэтай тэмы.

У межах праекта плануецца яшчэ адно вялікае навуковае мерапрыемства — стварэнне электроннай базы дадзеных спаленых беларускіх вёсак. Яна будзе размешчана на сайце Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Спісы, што ўжо апублікаваны, мы хочам дапоўніць, выверыць усе дадзеныя, дадаць інфармацыю пра тое, адкуль узяты звесткі. Але самы важны бок — у гэтай базе будуць прадстаўлены і самі дакументы. На кожную вёску мы паспрабуем прадставіць успаміны мясцовых жыхароў, партызан, фотаздымкі, акты, нямецкія дакументы. Гэта вялікі праект, які нават у межах двух год будзе ажыццявіць вельмі складана.

*Падчас Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі 9200 вёсак было спалена нацыстамі, такіх вёсак, як Хатынь, у нас было 628 (іх спалілі разам з насельніцтвам). У працэсе даследавання выяўлена, што знішчаліся нават вялікія вёскі з насельніцтвам тысяча і больш чалавек. Да прыкладу, у вёсцы Байкі, што ў Пружанскім раёне, у студзені 1944 года было знішчана 957 чалавек. А ў вёсцы Ала Светлагорскага раёна — 1758 чалавек, у тым ліку 950 дзяцей…*

**— Ці сталі вядомымі новыя факты ў выніку пошукаў, што вядуцца ўжо сёння ў гэтым кірунку?**

**Вячаслаў Селяменеў**: Так. Да прыкладу, у Асвейскім раёне толькі ў 1942 годзе было спалена 156 вёсак, а ў спісах значыцца каля 60. Ні ў адной краіне, што ўдзельнічалі ў Другой сусветнай вайне, не было столькі страт па знішчаных вёсках і насельніцтве. 9200 вёсак было спалена нацыстамі, такіх вёсак, як Хатынь, у нас было 628 (іх спалілі разам з насельніцтвам). У працэсе даследавання выяўлена, і гэта стала новым нават для мяне, што знішчаліся вялікія вёскі з насельніцтвам у тысячу і больш чалавек. Для прыкладу, у вёсцы Байкі, што ў Пружанскім раёне, у студзені 1944 года было знішчана 957 чалавек.

**Наталля Кірылава:** А ў вёсцы Ала Светлагорскага раёна было знішчана 1758 чалавек, у тым ліку 950 дзяцей…

**— Такім чынам, праект дапаможа і адкрыць новыя факты, і ўстанавіць гістарычную праўду шляхам публікацыі сапраўдных дакументаў?**

**Вячаслаў Селяменеў:** Так, у Нацыянальным архіве Беларусі захаваліся дакументы, звязаныя з асуджэннем ваенных злачынцаў. Нам перадалі з Цэнтральнага архіва Камітэта дзяржаўнай бяспекі справы на нямецкіх ваеннапалонных, якіх асудзілі пасля вайны за ўдзел у генацыдзе беларускага народа. У іх — паказанні сведкаў, у тым ліку і жыхароў спаленых вёсак. Там страшныя рэчы. Яны расказваюць, як цудам ураталяваліся з вогнішча. Пра гэта распавядаюць і партызаны, якія стараліся выратаваць насельніцтва. Насамрэч партызаны праводзілі вялікую работу, у гады вайны пасля знішчэння вёсак яны складалі акты, дакументальна фіксавалі ўсе падзеі. Нават былі створаны спецыяльныя брыгады, партызанскія камісіі. І гэтыя дакументы таксама захоўваюцца ў архіве. Па некаторых вёсках многа дакументаў, а па некаторых вельмі складана знайсці дакументальныя пацвярджэнні. У гэтым выпадку крыніцай інфармацыі служаць расповеды жыхароў, што выратаваліся.

**Наталля Кірылава:** Калі Янка Брыль, Уладзімір Калеснік і Алесь Адамовіч працавалі над кнігай “Я з вогненнай вёскі”, яны аб’ездзілі ўсю Беларусь, запісалі ўспаміны сведкаў. Гэтыя запісы таксама захаваліся. Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў нам прадаставіў чатырохгадзінны запіс успамінаў. Яны больш каштоўныя яшчэ і таму, што шмат хто з удзельнікаў пайшоў ужо з жыцця. Іх успаміны мы таксама размесцім у базе дадзеных.

**Вячаслаў Селяменеў:** Мы хочам знайсці дакументальнае пацвярджэнне ўсіх падзей. Для гэтага трэба працаваць у абласных архівах, працягнуць працу ў архівах Расійскай Федэрацыі. Справа ў тым, што значная частка дакументаў па дадзенай тэме захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі.

**— Прадстаўнікі іншых краін постсавецкай прасторы выказваюць зацікаўленасць вынікамі праекта?**

**Наталля Кірылава:** Так, мы ўжо ўдзельнічалі ў міжнароднай канферэнцыі ў Маскве, дзе прадстаўлялі праект. Ім сапраўды зацікавіліся і вырашылі зрабіць нешта падобнае.

**Вячаслаў Селяменеў**: Што асабліва паказальна, у Расіі зусім няма падобных напрацовак. І, на жаль, у нас апошнім часам тэме трагедыі знішчаных вёсак не надаецца належнай увагі. Мы стараемся гэта выправіць.

* * *

**Адразу пасля таго, як у сродках масавай інфармацыі з’явіліся першыя матэрыялы пра праект і былі апублікаваны кантактныя звесткі яго каардынатара Наталлі Кірылавай, пачаліся званкі ад тых людзей, хто цудам выратаваўся і не быў спалены разам з усімі жыхарамі родных вёсак.**

Адной з першых гераінь стала **Сцепаніда Доўнар** (нарадзілася 25 снежня 1925 года), калісьці жыхарка вёскі Гондарава Слуцкага раёна. Цяпер яна жыве ў пасёлку Рэдкі Рог, што ў Бабруйскім раёне, а зіму праводзіць у сталіцы, у дачкі. Родная вёска Сцепаніды Віктараўны так і не была адноўлена пасля вайны. Адгукнулася і **Зінаіда Леванец** (нарадзілася 1 красавіка 1935 года), якая цяпер жыве ў Мінску, яе родная вёска Скірмантава, што ў Дзяржынскім раёне, была спалена разам з жыхарамі падчас вайны. Пазней вёска адрадзілася, але на іншым месцы. Так, некалькі дзён таму ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь ужо адбыліся першыя запісы ўспамінаў герояў праекта.



**Расказвае Сцепаніда Доўнар:**

*— Калі пачалася вайна, у 1941 годзе, я ўжо скончыла першы курс політэхнікума, прыехала дадому. Наша вёска была невялікая, знаходзілася ў лесе. У 1943 годзе, у студзені, многія вёскі, што былі таксама ў лесе, недалёка ад нашай, гарэлі. Мая сястра была разведчыцай у партызанскім атрадзе, і яна расказвала, што спачатку з’явіліся маладыя людзі, іх лічылі дэсантам з фронту. А праз два дні прыйшоў карны атрад. Людзі ў белым адзенні. Яны прыйшлі і ў нашу вёску, якраз у гэты час памёр мужчына, і ўсе жыхары сабраліся ў яго хаце, немцы зайшлі ў дом, пахадзілі па вёсцы і пайшлі ў наступную вёску, Харашава. Праз гадзіну вярнуліся, і пасля — відаць, спяшаліся — заходзілі ў хаты, расстрэльвалі людзей і адразу падпальвалі хаты… Калі немцы ўвайшлі ў наш двор, я сядзела на печы. Старэйшая сястра стаяла каля стала, брат і бацька былі ў хаце… Спачатку забілі бацьку, меншыя брат і сястра адразу саскочылі з печкі і выбеглі ў двор, толькі чутно было: бах-бах. Два стрэлы… Немец зайшоў у дом, за руку пацягнуў старэйшую сястру, а яна мне кажа: “Стэфачка, хадзі, хай нас разам заб’юць!”, а ў мяне ўнутры ўсё акамянела ад страху, не зварухнуцца. Яны пацягнулі сястру. У хату зайшоў другі немец, брат стаяў у куце, а я на печы сядзела. Ён быў з аўтаматам… запытаўся ў мяне па-нямецку, я адказала таксама па-нямецку. Ён не націснуў курок… вельмі здзівіўся. “Вэк з печкі!” — сказаў і выгнаў нас з братам на вуліцу. З суседняй хаты таксама засталіся жывыя брат і сястра, нас разам паставілі ў канцы вёскі… За дзве гадзіны ад вёскі нічога не засталося.*

**Расказвае Зінаіда Леванец:**

*— У час вайны я яшчэ была дзіцем. Але помню пачатак вайны, як цяпер… Наша вёска была ў лесе, таму і стала партызанскім гняздом. Мой бацька, інвалід грамадзянскай вайны, у Вялікую Айчынную рамантаваў абутак партызанам, мама была сувязной у атрадзе… Гэта было ў 1943 годзе. Нам сказалі, што ідзе карны атрад, які паліць вёскі і забірае моладзь у армію. У мяне былі дзве старэйшыя сястры, і мама баялася, каб старэйшую дачку не забралі ў Германію. У вёсцы сабралася некалькі сямей, у каго былі дзеці такога ўзросту, і яны ўсе разам вырашылі ехаць у лес на возе, каб там схавацца. А я раптам вырашыла іх дагнаць. Бацька мяне спрабаваў спыніць, але ў яго гэта не атрымалася. І я пайшла з мамай. Мы прыехалі ў лес. У суседняй вёсцы Якуты раней былі немцы, і мы з мамай толькі выйшлі з лесу, каб паглядзець, што адбываецца ў Якутах. А там — немцы. У вёску мы зайшлі, а назад вярнуцца не маглі. У лесе чакалі астатнія, але не дачакаліся і паехалі за намі, іх убачылі немцы і пачалі страляць, усе вярнуліся дадому. А мы з мамай засталіся, бо не было як ісці... Раніцай наступнага дня глядзім: усё гарыць. Вёскі ж недалёка адна ад адной. Мама кажа: “Гэта наша вёска…” Прайшоў час, немцы пакінулі Якуты, і мы па лесе дабіраліся дадому. Потым брат расказваў, што ў вёсцы ўсіх людзей — 243 чалавекі — сагналі ў калгаснае гумно нібыта правяраць дакументы. Мой брат застаўся жывы, бо ў той час пасвіў кароў з суседскай дзяўчынкай. Яны схаваліся ў бульбе недалёка ад гумна, дзе былі сабраны людзі. Бацька ішоў з сям’ёй, вёў і чужых, і сваіх дзяцей... Брат выскачыў з бульбы і кажа: “Заходзьце сюды!”, бацька адмовіўся, бо трэба было праверыць дакументы… А потым гэтае гумно запалілі… Калі мы прыйшлі на наступны дзень, убачылі толькі груду целаў. У вёсцы засталося пяць чалавек…*

**Мы звяртаемся да нашых чытачоў з просьбай: калі хтосьці з’яўляецца жыхаром вёскі, што калісьці была спалена, або валодае інфармацыяй пра такіх людзей, паведаміце пра гэта каардынатару праекта Наталлі Кірылавай па электронным адрасе n.v.kirillova@tut.by або па тэлефоне: 8 (029) 623-64-28.**

***На здымку: Вячаслаў Селяменеў знаёміць Зінаіду Леванец (злева) і Сцепаніду Доўнар з архіўнымі дакументамі па спаленых вёсках.***

# КАРЫКАТУРА = ЖУРНАЛІСТЫКА + МАСТАЦТВА

## Свае манера і сакрэт




Некалькі гадоў запар пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі напярэдадні Дня смеху ладзяцца выставы гумарыстычнага малюнка і карыкатуры. Гэта стала добрай традыцыяй і дазволіла акцэнтаваць увагу на беларускай карыкатуры.

Сёлета, у юбілейны для «Вожыка» год (у ліпені і адзінаму ў рэспубліцы дзяржаўнаму выданню ў галіне сатыры і гумару спаўняецца 70 гадоў), адкрыецца выстава карыкатур, гумарыстычных малюнкаў, шаржаў супрацоўнікаў гэтай рэдакцыі, вядомага мастака-карыкатурыста Аляксандра Каршакевіча.

Кажуць, чалавеку трэба нарадзіцца сама меней двойчы. У яго, Аляксандра Каршакевіча, так і атрымалася. Нарадзіўшыся першы раз (а гэта здарылася 26 красавіка 1956 года), ён заплакаў. Нарадзіўшыся другі раз, ён засмяяўся. Гэта ўжо было ў 1982 годзе, калі ўпершыню надрукаваўся ў "Вожыку". Цяпер усе зразумелі: нарадзіўся новы карыкатурыст. За што толькі не хапаўся нованароджаны. Спрабаваў і гітару вярэдзіць, калі далучыўся да народнага тэатра аўтазавода. А вось калі ўзяўся за пэндзаль, дык не выпускае яго з рук і па сённяшні дзень. Скончыўшы мастацкае вучылішча імя Глебава, паспрабаваў мастакоўскага хлеба ў часопісах "Парус", "Гаспадыня", газеце "Ха-ха". Але найбольш упэўнена адчуў сябе ў часопісе "Вожык".

Мастак-карыкатурыст — чалавек заўсёды непрадказальны. Малюючы шаржы, смешнае ён часта шукае і знаходзіць у самой сур'ёзнасці чалавека. Ну а ў карыкатуры, напэўна, самае галоўнае — гэта ўмелы паварот ад звычайнага да зусім нечаканага. Карыкатурыст заўсёды пачувае сябе здабытчыкам смеху. І ўсё ж у гэтым незвычайным "паляванні" найпершай задачай ён ставіць для сябе "адстрэльванне" самой тэмы.

"Найцяжэйшым з усіх грахоў з'яўляецца маркота", — кажа мастак Аляксандр Каршакевіч. Адсюль ён і выводзіць сваю галоўную задачу пазбаўляць чалавека ад гэтага самага "грэху". І тое, трэба сказаць, яму ўдаецца. Пра што і сведчаць шматлікія карыкатуры, якія друкаваліся не толькі ў "Вожыку", але і ў польскім часопісе "Szpilki", у венгерскім — "Ludas Matyi", а таксама яго шаржы на калег, вядомых літаратараў і дзеячаў культуры. Акрамя ўсяго А. Каршакевіч малюе коміксы, афармляе кнігі. "Я чалавек непераборлівы, — прызнаецца мастак. — Малюю карціны, распісваю інтэр'еры, а калі папросяць, не адмаўляюся ад выканання рэкламных стэндаў".

Існуе даўняе перакананне, што ўсе гумарысты самі па сабе людзі сумныя. Некаторыя з іх сапраўды пакідаюць у акружаючых менавіта такое ўражанне. З Сашам заўсёды весела. Смехам ён напачатку заражаецца сам, а потым апраменьвае ім іншых. У гэтым, відаць, і схаваны сакрэт самога мастацтва смеху. Хоць у кожнага ў гэтым сэнсе яшчэ ёсць і свае, асабістыя сакрэты.

















*Малюнкі Аляксандра Каршакевіча*




*У Дзень смеху — самага вясёлага свята на свеце — людзі павінны ўсміхацца і жартаваць. І хто, як не "Вожык", ведае, як зрабіць чалавека вясёлым (а значыць, і шчаслівым). У юбілейным годзе — у ліпені "Вожыку" спаўняецца 70 гадоў — альманах чакаюць прыемныя змены: з II паўгоддзя ён пачне выходзіць штоквартальна, і сустрэч з чытачамі стане ўдва разы больш! А яго старонкі па-ранейшаму будуць напоўнены дзе мяккім, добразычлівым гумарам, дзе колкай сатырай, дзе добрай усмешкай і тонкай іроніяй… Бо "Вожык" — гэта фельетоны, сатырычныя апавяданні, байкі, вершы, гумарэскі, пародыі, эпіграмы, мініяцюры, п'есы, сцэнкі, прыпеўкі, карыкатуры, коміксы — словам, усё тое, што завецца сапраўдным беларускім гумарам… Таму чытайце, пішыце, малюйце, усміхайцеся і — не забывайцеся падпісвацца на "Вожык"!..*

## Думкі ўголас

► Атрымліваць задавальненне ад работы можа кожны. Але не кожны мае такую работу.

► Кіраўнік кіруе, падначаленыя падначальваюцца, а хто ж працуе?

► Дурні шукаюць лепшыя месцы. Разумныя — займаюць іх.

► Тое, чаго ты хочаш, — не збываецца. Тое, чаго ты не хочаш, — збываецца. Значыць, трэба не хацець таго, што не збываецца.

► Шанц даецца кожнаму. Калі пашанцуе.

► Служба бяспекі — небяспечная служба.

► Якая марская зорка не марыць стаць акіянскай?

**Дунька ШЫП,**
*г. Мінск.*

► Колькі жанчыну ні хвалі, усё роўна не перахваліш.

► Колькі свінню ні кармі, сланом не стане.

**Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць, г. п. Акцябрскі.*

► Залатыя хлопцы паехалі на Алімпіяду, а дахаты нават бронзу не прывезлі…

► Футбольны матч пакінуў незабываемае ўражанне.

► Захаваць фігуру можна не толькі ў шахматах.

**Кастусь КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*

## Эпіграмы

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

**Уладзімір Мазго**

*Наш Валодзя — ого-го! —*
*Кажуць так куміры. —*
*Дацягніся да яго,*
*Да Уладзіміра.*
*Добра ведае Мазго,*
*Дзе, калі і для чаго!*

**Леанід Галубовіч**

*Між дзяўчат ЛеГал бываў,*
*Між Аксан ды Жэняў.*
*Пастаянна даставаў*
*"Зацемкі з кішэні".*
*А дзяўчаты: "Ай-яй-яй!*
*Можа, з'ехаў з глузду?*
*Лепей, хлопча, семак дай,*
*Каб было што лузгаць!.."*

**Пятро РАДЗЕЧКА**

**Казімір Камейша**

*Не пытайце у Камейшы:*
*"Хто з паэтаў цікавейшы?"*
*Вам адкажа Казімір:*
*"Кожны сам сабе кумір.*
*А сапернік салаўя —*
*Пэўна, буду толькі я!"*

**Васіль ФЕРАНЦ**

## Умоўны рэфлекс

*З натуры*

З некаторага часу Ганна пачала заўважаць за сваім мужам незвычайныя дзівацтвы. Як пераехалі на новую кватэру, быццам здурнеў Мікола. Не з работы, як людзі, цягне што-небудзь дадому, а з хаты — на работу.

Мікола працаваў на хлебазаводзе — і раней дома заўсёды пахла свежым хлебам і булкамі, былі запасы цукру, дражджэй, разынак і іншых прысмакаў. А цяпер? Мала таго, што ўсё гэта пакрысе перанёс на завод, дык і сёе-тое з хатніх рэчаў стараецца завалачы ў свой цэх. То інструменты якія, то гайку, а то і посуд…

Урэшце Ганна вырашыла паказаць мужа псіхіятру.

Эскулап агледзеў незвычайнага пацыента з усіх бакоў і, нічога падазронага не заўважыўшы, пачаў распытваць:

— Дзе вы жывяце, якая ў вас кватэра?

Мікола расказаў, што жыве на вуліцы Дражджавой. Раней жыў у двухпакаёвай кватэры, а цяпер з жонкай — у аднапакаёўцы. Сын ажаніўся, давялося размяняць кватэру на дзве меншыя.

Вуліца Дражджавая праходзіла якраз паўз хлебазавод. Урач задумаўся:

— А ў якім доме вы жылі раней і ў якім цяпер?

Мікола адказаў.

— Усё зразумела! — усклікнуў псіхіятр. — Ваша ранейшая кватэра была на левы бок ад завода, так? А цяпер — на правы! Раней вы цягнулі ўсё з завода налева. Цяпер ваша кватэра ў супрацьлеглым баку, а вы па звычцы цягнеце ўсё налева. Умоўны рэфлекс, левы, так бы мовіць, сіндром…

Жонцы ўрач сказаў, што з цягам часу гэта пройдзе, трэба толькі выпрацаваць іншы рэфлекс, перайсці на "правы" сіндром — і ўсё наладзіцца…



Малюнак Аляксандра Каршакевіча

**Уладзімір ПРАВАСУД**

## Навіна

*Байка*

Сарока на хвасце прынесла навіну.
Не важна нам — адкуль,
Не важна нам — якую.
Ды ўжо Зязюля пра яе кукуе,
На вуха Муха шэпча штосць Слану.
А той Мядзведзю кажа па сакрэту.
Мядзведзь — Ласю...
А Лось панёс далей...
І ўжо праз пэўны час ад навіны ад гэтай
Узрушан кожны Звер
І кожны Верабей.
І ці то ноч у лесе,
Ці то ранне,
Адно ва ўсіх пытанне:
— Ці чулі вы?
— Не чуў. А што?
— Гавораць,
Гарыць якоесь мора.
— Далёка?
— Не, паблізу дзесь.
— Ад мора, кажуць, можа загарэцца лес...

Бывае так: ад цёткі і да цёткі
Разносяцца па вёсцы плёткі.

**Юрый ЗЯНЬКО**

## Знаўцы

*Міні-сцэнка*

**Першы знаўца:** — Цудоўнае палатно!

**Другі знаўца:** — Але, бадай, вы маеце рацыю. Надзвычайная тэхніка, выдатны мазок, дзівосная палітра фарбаў…

**Першы знаўца:** — Крамскі — гэта Крамскі!

**Другі знаўца:** — Прабачце, але гэта Рэпін.

**Першы знаўца:** — Выбачайце, але я мастацтвазнаўца і не магу памыляцца!

**Другі знаўца:** — А я дваццаць гадоў хаджу ў гэты музей і дакладна ведаю, хто аўтар гэтага палатна!

**Дзяўчынка з блакнотам:** — Гэта Сяроў, дзядзечкі.

**Першы знаўца:** — Гэтага не можа быць!

**Другі знаўца:** — Поўная бязглуздзіца і няведанне палотнаў вялікіх рускіх жывапісцаў!

**Першы знаўца:** — Якая некультурнасць! Як можна павучаць старэйшых!

**Другі знаўца:** — Адукаванасць маладога пакалення роўна нулю.

**Дзяўчынка з блакнотам:** — Прабачце, але пад карцінай пазначаны аўтар — Сяроў…

## Пішуць студэнты…

- "Вернадскі ўнёс свой уклад у зямлю…"
- "Функцыя жывёл у экасістэме — чыстка лесу".
- "Асноўнай экалагічнай праблемай Палесся з'яўляецца мілітарызацыя".
- "Прыродныя рэсурсы — гэта пясок, цэмент…"
- "Мастак-анімаліст малюе анамаліі…"
- "Дозу апраменьвання ад мабільнага тэлефона атрымаць нельга, бо ў ім няма чаму ўзбуджацца!"

**Запісаў Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

## Анекдоты

— Калі быў залаты век?
— Калі людзі не ведалі золата.

* * *

— Купіце выйгрышны білет!
— А я не хачу нічога выйграваць.
— Тады якраз для вас у мяне ёсць білет, які нічога не выйграе!..

* * *

— Мама, якое будзе заўтра надвор'е?
— А гэта, сынок, залежыць ад сіноптыкаў.

* * *

— Учора я цудоўна правёў вечар!
— Напэўна, былі ў тэатры?
— Я — не, там была мая жонка.

* * *

— І ў мяне калісьці быў ідэал.
— Куды ж ён падзеўся?
— Я выйшла за яго замуж…




Малюнак Аляксандра Пятрова



**Ва ўсяго на гэтым свеце ёсць пачатак: у рэчкі, у кнігі, у дня і года, у любой песні або казкі. А шматлікія гісторыі можна пачаць словамі: "Даўным-даўно гэта было..." Але ў нашым выпадку гісторыя клуба абрэзкавага шыцця "Рошва" Полацкага цэнтра рамёстваў і нацыянальных культур пачалася адносна нядаўна. У гэтым цэнтры ў 2000 годзе былі створаны курсы шыцця з абрэзкаў. Так ужо надараецца ў нашым жыцці, што гэта старадаўняе, даступнае калісьці кожнай гаспадыні і майстрысе рамяство з цягам часу стала амаль забытым. Таму на першыя заняткі курсаў прыйшлі ўсяго пяць жанчын: нехта з цікаўнасці, а хтосьці — даведацца нешта новае. Не было літаратуры ды і выбару тканіны, але было вялікае жаданне тварыць прыгажосць сваімі рукамі, пазнаваць сябе ў творчасці.**

# Злучанасць твораў і творцаў

**Віктар ЗАЯЦ**

Першы год было цяжкавата: пошук спецыяльных тканін, малюнкаў, інструментаў для працы, крыніц інфармацыі. Затое кожнае новае адкрыццё было радасцю для ўсяго невялічкага калектыву. Пакрысе, крок за крокам, асвойваліся тэхнікі і прыёмы, назапашваўся багаж ведаў, знаходзіліся патрэбныя тканіны. І кожны новы выраб шчыра радаваў не толькі яго аўтара, а і ўсю групу.

Напрыканцы навучальнага года на суд гледачоў прадставілі першую, на сённяшні досвед, даволі сціплую экспазіцыю абрэзкавых вырабаў. І адразу стала зразумелым — мы на правільным шляху! Пасля летніх адпачынкаў работа курсаў узнавілася. Калектыў майстрых павялічыўся амаль удвая. Давялося распрацоўваць праграму другога года навучання, падрыхтоўваць дадатковыя матэрыялы. Ізноў лета: выніковая экспазіцыя амаль на цэлую невялікую выставачную залу, захопленыя водгукі наведвальнікаў і радасць ад таго, што здолелі парадаваць іх сваімі вырабамі. А пасля чарговых адпачынкаў надарылася неверагоднае — на курсы прыйшлі новыя "студэнткі", а старэйшыя не захацелі разыходзіцца. Мы зразумелі, што гэта, магчыма, і ёсць пачатак той маленькай творчай каманды, у якой адзін дапаўняе другога, дзе нараджаюцца творчыя ідэі і ўвасабляюцца смелыя задумы, дзе жаночыя рукі ствараюць прыгажосць і адраджаюць такое забытае і адначасова такое




сучаснае і дэмакратычнае рукадзелле — абрэзкавае шыццё. У яго даўняя гісторыя і традыцыі. Зразумела, у яго няма нацыянальнай прыналежнасці, бо ва ўсім свеце, дзе была тканіна і старанныя гаспадыні шылі адзенне, заўсёды заставаліся абрэзкі. Але вытворчасць тканіны была дарагой, таму гэтыя абрэзкі ніколі не выкідаліся пасля раскрою. У вольныя хвіліны жанчыны рамантавалі імі дзіравую адзежу, шылі коўдры або кілімы... Праўда, у розных краінах і тканіна была рознай: шоўк, шэрсць, бавоўна, лён... Ды і традыцыі стварэння абрэзкавых узораў, як тэхнікі і прыёмы, былі адрозныя.

Пачалі шукаць назву для новага творчага калектыву. Пагляздзелі адна на адну — якія ж мы розныя: па ўзросце, адукацыі, сацыяльным статусе. І назва, якую мы прыдумалі, найлепшым чынам адпавядала ідэі аб'яднання. "Рошва" — так у беларускай мове называлася шво, якое злучае розныя дэталі крою народнага адзення. Упершыню калектыў майстрых прагучаў як "клуб" у 2004 годзе. Кірмашы на дзень горада, выстаўкі, майстар-класы, якія адкрывалі гараджанам і яго гасцям магчымасці абрэзкавага шыцця, нікога не пакідалі абыякавымі і з кожным разам збіралі ўсё больш гледачоў і прыхільнікаў.

У 2006-м маленькаму клубу шыцця з абрэзкаў "Рошва" было нададзена ганаровае званне "народны". Кіруе ім і вядзе заняткі на курсах член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Ніна Ярмух. Напрыканцы таго ж года ў клубе нарадзілася ідэя зрабіць да 1145-годдзя Полацка падарунак любімаму гораду. Так склаўся знакаміты "Полацкі абярэг". Удзел у яго стварэнні бралі беларусы, якія па волі лёсу жывуць у розных краінах, гараджане, школьнікі, жыхары многіх гарадоў Беларусі і проста людзі, чые сэрцы адкрыты для дабра і стасункаў. Работы, выробленыя больш чым 370 майстрамі з 84 гарадоў 13 краін, майстрыхі клуба сшылі ў велізарнае палатно, якое на сённяшні дзень мае плошчу больш як 92 квадратныя метры. Гэты праект быў ажыццёўлены дзякуючы падтрымцы Апарата Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

Пасля завяршэння "Полацкага абярэгу" наладзіліся сяброўскія кантакты з творцамі з розных краін. Прыкладам, майстры з горада Цісцед, што на поўначы Даніі, прапанавалі ідэю сумеснага праекта. Так, у 2008 годзе ўпершыню ў Беларусі быў здзейснены праект "Раўнд Робін". Гэта своеасаблівае творчае пабрацімства зблізіла майстрых дзвюх краін і засведчыла, што для творчасці няма моўных перашкод і дзяржаўных межаў, а мова мастацтва — самая зразумелая і даступная.

Творчая скарбонка 2009-га папоўнілася яшчэ некалькімі маштабнымі і цікавымі праектамі. Па ініцыятыве і пры садзейнічанні Апарата Ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей ажыццёўлены праект "Вянок садружнасці", у аснову якога пакладзена тэма садружнасці нацый, што жывуць на тэрыторыі Беларусі. Упершыню палатно "Вянок садружнасці" было прадстаўлена гледачам у мінулым годзе падчас правядзення міжнароднага фестывалю "Славянскі базар у Віцебску".

Майстрыхі клуба неаднаразова бралі ўдзел у Міжнародным конкурсе па абрэзкавым шыцці "Еўраквілт". У 2006 годзе абрэзкавыя пано Святланы Гарбаценкі ды Таццяны Захаранкавай адзначаны, адпаведна, дыпломамі II і III ступені. Але самае вялікае жаданне ўдзельніцкаў клуба — ладзіць у нашай краіне конкурсы і фестывалі абрэзкавай творчасці. Як вядома, калі нечага вельмі хочацца і да гэтага імкнешся, то задуманае абавязкова спраўджваецца: у кастрычніку 2009-га быў праведзены фестываль абрэзкавага шыцця "Полацк-квілт-2009". А цяпер вядзецца падрыхтоўка да другога аналагічнага фестывалю, які запланаваны на май 2012 года.

**Дарадцам і кансультантам рубрыкі "Дзівасвет" выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## З глыбінкі

### «Давайце жыць! Забудзем сум!»

Пад такой назвай у Круговіцкім СДК Ганцавіцкага раёна адбылася прэзентацыя зборніка вершаў мясцовага паэта Вячаслава Несцерука. Былыя вучні і калегі, а таксама дочкі паэта, павіншавалі яго з двайным юбілеем — 80-годдзем жыцця і 20-годдзем літаратурнай творчасці.

У Круговіцкую школу Вячаслаў Іосіфавіч прыехаў маладым настаўнікам пасля інстытута і да пенсіі выкладаў рускую мову і літаратуру, быў завучам. Складаць вершы пачаў яшчэ ў студэнцтве. Першыя вершы ён назваў выпадковымі. Больш сур'ёзна стаў пісаць, калі выйшаў на пенсію. "Як настаўнік рускай літаратуры, я ўсё жыццё вывучаў класіку. Пачаў пісаць сам, але доўгі час саромеўся паказваць свае творы", — расказаў Вячаслаў Іосіфавіч. А пасля смерці жонкі вершы сталі для паэта выратаваннем ад адзіноты і пакут.

Так з'явіліся чатыры рукапісныя зборнікі вершаў: "Любви цветок", "Рассветы и закаты" і два сшыткі пад назвай "Ночные мысли". Каля ста лепшых вершаў з рукапісных зборнікаў увайшло ў першае друкаванае выданне Вячаслава Несцерука пад назвай "Рассветы и закаты", выдадзенае Ганцавіцкай раённай цэнтральнай бібліятэкай."Боль, сум, усвядомленая мудрасць пражытых гадоў, а разам з тым імкненне да пошуку неразгаданых таямніц жыцця, — здаецца, менавіта ў гэтым сутнасць паэзіі Вячаслава Несцерука", — напісаў у прадмове да кнігі вучань паэта, вядомы пісьменнік Віктар Гардзей.

**Ірына ДАМАРАЦКАЯ**

### Майстэрства рабіць габелены

Майстар-клас, прысвечаны габелену, правяла з навучэнцамі мастацтвазнавец мастацкай галерэі "З'ява" Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Каладзеева Анжэла Кудакова. Ён быў ужо другі па ліку з серыі запланаваных у рамках творчага праекта "Сузор'е рамёстваў". Першы майстар-клас — па кардмейкінгу (вырабу ўручную віншавальных паштовак) — народная майстрыха праводзіла перад Новым годам з навучэнцамі Барысаўскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа.

Гэтым разам вучні 3 "Г" класа 8-й сярэдняй школы г. Барысава вучыліся ствараць аб'ёмны нятканы габелен — аплікацыю з нітак у выглядзе багоўкі, якая сядзіць на лісце дрэва.

— Праект "Сузор'е рамёстваў" разлічаны на адзін год, — распавяла А. Кудакова. — Заняткі будуць праходзіць раз у два месяцы. І дзеці падчас іх даведаюцца, што такое габелен, пэчварк, квілт, скраббукіт, кардмейкінг.

На гэты раз мы стварылі аб'ёмны нятканы габелен у тэхніцы "ізаніць", выкарыстоўваючы нетрадыцыйныя прыёмы і сродкі: вочкі рабілі з перцу-гарошку, лускавінкі — з планшэтак ад таблетак, астатняе — з лямцу і звычайных ваўняных нітак. Я ім паказала, як рабіць нарыхтоўку з пап'е-машэ, як ляпіць, не пакідаючы слядоў, і іншыя маленькія сакрэты. Акрамя таго, я распавяла, як тчэцца габелен на Барысаўскім камбінаце прыкладнога мастацтва, пра нашых мастакоў Кішчанку і Стасевіча. Школьнікі здзівіліся, што нават маленькі малюначак тчэцца на працягу некалькіх гадзін.

**Анатоль МАЗГОЎ**

## Афарызм

*Лепей за ўсё смяяцца з сябе. Ніхто не крыўдуе.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ



Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад — 3051
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 31.03.2011 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1474
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12